# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК




№ 11 (576) ГОД XII 12 САКАВІКА 1967 г. ЦАНА 60 гр.


# БГКТ

## ПАСЯДЖЭННЕ ПРЭЗІДЫУМА ГП БГКТ

25 лютага адбылося пашыранае пасяджэнне Прэзідыума ГП БГКТ. Апрача членаў Прэзідыума ГП, прыймалі ўдзел у ім члены рэвізійнай камісіі БГКТ, старшыні і інструктары аддзелаў. У парадку дня было: абмеркаванне справаздачы з дзейнасці ГП БГКТ у 1966 годзе, аналіз і прыняцце балансу за 1966 г., прыняцце планаў працы ГП і ГА БГКТ на 1967 г.

Лікі са справаздачы падавалі мы ў мінулым нумары. Сёння абмяжуемся да дыскусіі. Вялікую ўвагу звярнулі дыскутанты на неабходнасць паляпшэння абслугі гуртkoў. Яна, на думку дыскутантаў, была найслабейшай пазіцыяй у працы Таварыства ў мінулым годзе. Многія выезды былі «тэхнічныя», без зместу, канцэнтраваліся вакол арганізацыі канцэртаў «Лявоніхі», сеансаў кінафільмаў і іншых мерапрыемстваў. Дыскутанты падкрэслівалі, што гэтыя выезды трэба спалучыць з абслугай гурткоў, каб кожны выезд быў як найбольш прадуктыўны. Шмат увагі ў дыскусіі заняло таксама пытанне эфектыўнага выкарыстання кінасеансаў. Дыскутанты сцвярджалі, што кінасеансы неабходна выкарыстаць у прапагаванні ідэй БГКТ. Кожны фільм трэба спалучыць з адпаведнай гутаркай, ці іншым змястоўным мерапрыемствам.

Важнае месца ў дыскусіі заняла таксама справа абмену паміж ГП БГКТ і адпаведнымі арганізацыямі БССР. Паводле статуту, такі абмен БГКТ мае права весці, але практычна абмяжоўваецца ён да карэспандэнцыі, фотаматэрыялаў і кніжных выданняў. Крытыкавалася тут ГП ТППР, якое недацэньвае патрэб нашага Таварыства ў больш шырокім выкарыстанні розных беларускіх дэлегацый, якія часта наведваюць Польшчу.

Шмат увагі прысвяцілі таксама ўдзельнікі пасяджэння выкрыццю рэзерваў у далейшай працы Таварыства. Існуе да гэтага асабліва спрыяльны клімат. Нядаўна Ваяводская рада нарадовая ў Беластоку выдала спецыяльную пастанову ў нацыянальных справах, якая абавязвае падпарадкаваныя тэрэновыя рады да канкрэтнай дзейнасці ў гэтай галіне. Трэба неабходна гэта выкарыстаць у нашай працы. Тут інспірацыя павінна ісці ад аддзелаў.

Дыскутанты гаварылі таксама аб існуючых магчымасцях выкарыстання фінансавых рэзерваў па-за бюджэтам Таварыства. Тут таксама павінна быць з нашага боку як найбольш ініцыятывы.

Аб планах працы на 1967 г. напішам іншым разам.

## СВЯТКАВАННЕ ГАДАВІНЫ САВЕЦКАЙ АРМІІ

25 лютага г. г. гарадскі аддзел БГКТ у Беластоку наладзіў урачыстую акадэмію з нагоды святкавання 49-ай гадавіны Савецкай Арміі. Канцэртная зала Таварыства была перапоўнена. Даклад прачытаў член праўлення аддзела Васіль Баршчэўскі, затым выступіў прадстаўнік Савецкай Арміі. Мастацкую частку даў хор аддзела пад кіраўніцтвам Міхася Ануфрыева. Пасля адбыліся танцы.

## СУСТРЭЧА З ПАРТЫЗАНСКІМ КАМАНДЗІРАМ

26 лютага гарадскі аддзел БГКТ у Беластоку наладзіў для сваіх членаў сустрэчу з былым начальнікам штаба партызанскага атрада імя Кастуся Каліноўскага — Дзмітрам Карповічам. Сустрэча адбылася пры поўным камплекце слухачоў у канцэртнай зале Таварыства. (ха)



ВЯСКОВЫЯ ПАРТРЭТЫ Сымон Бародзіч з Кнышэвічаў.
Фота Ул. Паўлючук

# БЕЛАРУСКАЯ ВЁСКА І ЭТНАЛОГІЯ

У апошнія гады развіваецца ў Польшчы галіна навукі, якая на захадзе найчасцей называецца «антрапалогіяй культуры», а ў польскай навуковай традыцыі найбольш адпаведным для яе названнем з'яўляецца «этналогія». Прадметам гэтай навукі з'яўляецца гісторыя чалавечай культуры, механізм яе развіцця і пераўтварэнняў. У апошнія месяцы вышлі з друку між іншым дзве цікавыя кніжкі, аўтары якіх — Бауман і Бенькоўскі — стараюцца абагульніць веды чалавецтва аб яго культуры, пераўтварэннях і развіцці[1]).

Апрача аднак агульнатэарэтычных тэм польская навука распрацоўвае на канкрэтным этнічным матэрыяле праблемы грамадскага развіцця і грамадскіх пераўтварэнняў. Асабліва цікавымі для такіх доследаў з'яўляюцца раёны перыферыйныя, ізаліраваныя на працягу гісторыі ад асноўных цывілізацыйных цэнтраў. Такім раёнам з'яўляецца ў Польшчы, між іншым, Усходняе Падляшша.

Што тады асабліва цікавага для даследчыка беларускай народнай культуры? Перад усім, як здаецца, яе вялікая трываласць і нязменнасць да канца XIX стагоддзя і хуткі занятад у XX стагоддзі.

Зразумела, даволі цяжка сказаць, на колькі народная беларуская культура захавала звычаі, вераванні, абрады і легенды свайго першабытнага, дахрысціянскага паходжання, а на колькі засвоіла новыя, невядомыя ёй раней элементы. Ёсць аднак галіна жыцця, у якой такія сцвярджэнні зусім магчымыя: галіна матэрыяльнай культуры.

Вёскі нашыя заснаваныя былі ў XV і XVI стагоддзях. Зараз жа пасля заснавання склалася ў асноўным сістэма гаспадаравання і камплект асноўных сельскагаспадарчых прылад, якія захаваўся да канца XIX стагоддзя. Асноўнымі паказальнікамі гэтай сістэмы, перарываўшымі без змен 400, а ў некаторых нават 500 гадоў, былі: цераспалосіца сялянскіх грунтаў, трохпольная сельскагаспадарчая сістэма; з прылад: саха, воз на драўляных восях, плеценая барана і г. д. Не змяняўся таксама асартымент сельскагаспадарчых культур, прынцыпы гаспадарчага будаўніцтва з тыповай курнай хатай, якая ў многіх вёсках захавалася таксама амаль да канца мінулага стагоддзя. Каб даведацца, як жылося нашым сялянам чатыры стагоддзі таму назад, хопіць паехаць у некаторыя вёскі Сакольшчыны і распытаць старых дзядуляў, як жылося ім гадоў 50—60 таму назад. Ад часоў заснавання нашых вёсак да часоў іх маладосці змянілася тут вельмі, вельмі мала.

Калі сістэма гаспадаравання і матэрыяльная культура нашай вёскі налічвае больш-менш 400 гадоў, то паасобныя элементы гэтай культуры беспараўнальна старэйшыя.

Чэканоўскі паказвае, што традыцыйны наш драўляны воз з аглоблямі вядомы быў ужо ў глыбокай старажытнасці[2]). Такім жа старажытным з'яўляецца наш спосаб запрагання пры дапамозе хамута і дугі, які вынайшлі ўпершыню мангольскія плямёны цэнтральнай Азіі, а ў Еўропу занесены ён быў у час нападу на яе азіяцкіх плямён гунаў у IV—V стагоддзях нашай эры[3]). Многа іншых элементаў матэрыяльнай культуры вядома было раней плямёнам балтаў, якія калісь засялялі

(Працяг на стар. 4)




* * *

Перад табой трымаю споведзь,
Табой, як праўдай, даражу.
Твае ўсе сны са мною ходзяць
Па сцежках тых, дзе я хаджу.

А на далёкіх раздарожжах
Я адчуваю твой пагляд.
І неяк робіцца трывожна
Сярод заснежаных прысад.

А як хацелася б пачуць мне
У промнях ветранай вясны
Неразгаданыя пачуцці
І недагледжаныя сны!

Анатоль Канапелька



Легенда невялікай вёскі Райкі ў Бельскім павеце з яе толькі 26 гаспадаркамі нарадзілася разам з адраджэннем думкі, каб у вёсцы сваёй збудаваць святліцу.

А было гэта ў 1958 годзе.

Чаму кажам, што думка ў гэтым годзе адрадзілася? Калі было яе нараджэнне? Думка аб святліцы ў Райках нарадзілася на руінах спаленай вёскі адразу пасля вайны.

Цэнтральная постаць райкаўскай легенды — амаль 70-гадовы цяпер невысокі чалавек — «яшчэ за Берута» слаў пісьмы ў справе святліцы ў міністэрствы. Уладу, якая настала, прыняў як сваю, як добрага сябра. І цяпер так звычайна, як аб суадносінах з прыяцелем, гаворыць: «Берут прыслаў пісьмо, што прызнаюць нам на святліцу 200 тысяч злотых» (старых).

Людзі — гаспадары вёскі спачатку ад-




нак ажывілі, нанава засялілі родную вёску. А адраджэнне думкі аб святліцы прыйшло ў памятным 1958 годзе.

*

Апагея свайго райкаўская легенда дасягнула ў 1961 годзе, калі адбылося ўрачыстае адкрыццё святліцы, «збудаванай грамадскім чынам». З'ехаў тады ў малыя Райкі ўвесь павет і было тут для ўсіх вялікае свята. Мясцовы драматычны гурток, які дагэтуль блукаўся без уласнага даху, як гаспадар быў уведзены ў пустаковую свежую святліцу.

## СЛЕДАМ РЫГОРА СЕМЕНЮКА...

Рыгор Семянюк з уладай жыве добра. Не ідэалізуе яе і не баіцца. Святліцу ў Райках паказаў добра не толькі ў ваяводстве, але на ўсю краіну. Невялічкія Райкі ўславіліся аж у Міністэрстве культуры, а зноў жа на асабістае пісьмо Рыгора Семенюка да дырэктара дэпартамента ў тым жа міністэрстве дырэктар прыслаў у дары для новай святліцы тэлевізар...

Не штодзень здараюцца такія рэчы. Не падаюць з міністэрства дармовыя тэлевізары. Але Рыгор Семянюк хоць дробны, а смелы. Ездзіць па павеце, да ваяводскага Беластока часта. За ўласныя грошы, не на дэлегацыю. Заходзіць у кожныя дзверы, (кажа, што яны адкрыты), калі за аднымі бывае не па яго, ідзе ў іншыя.

(Працяг на стар. 3)

# Падзеі • Здарэнні • Факты • Каментарыі • Весткі

## СВЕТ

### ПАВЯЛІЧВАЮЦЬ АГРЭСІЮ

Нядаўна Сенат Злучаных Штатаў прыняў 89 галасамі супраць 2 палітычную дэкларацыю, у якой выказваецца, што і ў далейшым усімі спосабамі будзе падтрымліваць узброеныя сілы ЗША ў В'етнаме. Гэтая дэкларацыя з'яўляецца дапаўненнем да праекта пастановы аб дадатковым асігнаванні 4,5 мільярда долараў на в'етнамскую вайну.

### 250.000 ДЗЯЦЕЙ ЗАГІНУЛА

Адзін з 13 амерыканскіх кангрэсменаў, якія стварылі камітэт для доследаў ахвяр сярод цывільнага насельніцтва В'етнама, заявіў, што **ад 1961 года ў В'етнаме загінула 250 тысяч дзяцей, а каля 750 тысяч былі раненымі.**

### АЛЖЫРСКІ ПЛАН

Алжырскі міністр замежных спраў прадставіў новы план вырашэння радэзійскай праблемы. Каб звергнуць рэжым Сміта план прадбачвае: 1) павелічэнне ваеннай і фінансавай дапамогі Арганізацыяй афрыканскага адзінства радэзійскім нацыянальна-вызваленчым і апазіцыйным арганізацыям (у адносінах да расісцкага рэжыму); 2) прымяненне сілы ў адносінах да нелегальнага рэжыму ў тым выпадку, калі б гэта было неабходнасцю; 3) далейшае абвастрэнне эканамічных санкцый у адносінах да Радэзіі.

### ВЯЛІКАБРЫТАНІЯ БУДУЕ АТАМНЫЯ ЛОДКІ

У 1967—68 гадах Вялікабрытанія павялічыць выдаткі на патрэбы ваенна-марскога флоту на 24 мільёны фунтаў штэрлінгаў. Такім чынам, выдаткі на ваенна-марскі флот складуць 620 мільёнаў фунтаў штэрлінгаў. Адначасова ўрад Вялікабрытаніі прыняў рашэнне аб поўнай рэалізацыі пабудовы атамнай падводнай флатыліі.

### АЎТАБІЯГРАФІЯ Б. ПАСТАРНАКА

Першы нумар месячніка «Новый мир» апублікаваў аўтабіяграфічны нарыс **Барыса Пастарнака.** У падрыхтоўцы нарысу прыняў удзел сын паэта Яўгеній Пастарнак — па прафесіі інжынер. Ва ўступным слове «Новый мир» падкрэслівае, што «на роўні з верагоднымі вобразамі ёсць тут таксама і спрэчныя суб'ектыўныя ўражанні. Аднак старонкі аўтабіяграфічнага нарысу маюць вартасць і шчырасць расказу вялікага артыста аб сабе і аб сваёй творчасці».

### НОВАЯ ВЁСКА ПАЎНОЧНАЙ КАРЭІ

У Паўночнай Карэі наступіў далейшы рост матэрыяльнага і культурнага жыцця на вёсцы. Зараз на 100 гектараў зямлі прыпадае 1,1 трактараў. Электрыфікавана 98,2% вёсак і 84,9% сялянскіх сядзіб. На кожную прадукцыйную спулдзельню прыпадае ў сярэднім 12 аграномаў і агратэхнікаў. У 1964—66 гадах падрыхтавана 23.400 агратэхнікаў. У гэтым жа часе колькасць лекараў і дапаможнага медыцынскага персаналу на вёсцы павялічылася ў 1,7 разоў. У мінулым годзе быў знесены падатак, аплочваны натурай. За апошнія 3 гады за кошт дзяржавы пабудавана 106.894 сельскіх дамоў.

А. К.

## БССР

### БЕЛАРУСКІМІ РУКАМІ

Адбыўся II з'езд кінематаграфістаў Беларусі. Публікаваная ў друку дыскусія, якая мела месца на з'ездзе, была смелай і канструктыўнай. Мабыць, гэта пачатак новага этапу ў развіцці беларускага кіно. Вядома, апошняе слова скажа час. Час пакажа.

У дыскусіі паўтаралася знамянальнае сцвярджэнне, каб **«рабіць беларускае кіно беларускімі рукамі».** Галоўны сэнс таго сцвярджэння, бадай, не ў тэндэнцыі да культу нацыянальнай спецыфікі ў беларускім кіно. Цытаванае сцвярджэнне, хутчэй за ўсё, афірмуе глыбейшыя прычыны, якія перашкаджаюць развіццю нашай нацыянальнай кінематаграфіі. Агульна кажучы, справа ў тым, каб перамагчы правінцыянальную сітуацыю, у якой знаходзіцца беларуская кінематаграфія. Як прыклад самастойнай дзейнасці, указана на вялікі літоўскі фільм «Ніхто не хацеў паміраць» і грузінскі — «Бацька салдата», фільм, які заваёўвае экраны свету.

«Няма сумнення, што толькі рашуча павярнуўшыся да вялікіх тэм з жыцця рэспублікі, наша кінамастацтва зможа набраць належную вышыню. Але для гэтага трэба, каб сцэнарна-рэдакцыйная калегія «Беларусьфільм»... пакончыла з практыкай папаўнення свайго партфеля за кошт сцэнарыяў, набытых на баку, ды яшчэ часам такіх, якія не вызначаюцца ні тэмай, ні мастацкімі якасцямі».

Зварочвалася ўвага на тое, што кола мясцовых (беларускіх) аўтараў сцэнарыяў абмежаванае, галоўным чынам, да членаў сцэнарна - рэдакцыйнай калегіі студыі «Беларусьфільм». Ясна, што ў так складаўшыхся ўмовах сцэнарныя творы ацэньваюцца паводле тактыкі ўзаемнай адарацыі. Не выхоўваецца на студыі маладых кадраў сцэнарыстаў.

Кадры беларускіх кінематаграфістаў **сталі праблемаю.**

«На гэтую тэму размова вядзецца ўжо ледзь не дваццаць год, але калі б дваццаць год назад мы пачалі пасылаць ва Усесаюзны інстытут кінематаграфіі і на курсы сцэнарыстаў у Маскву свае кадры, не было б, відаць, ужо і праблемы». І далей: «Вельмі складанай аказалася **«акцёрская праблема».** Дзіўна, сапраўды, бачыць на экране беларуса, які размаўляе з волжскім акцэнтам. «Альпійская балада», напрыклад, магла б стаць значным творам нацыянальнай кінематаграфіі, калі б на ролю Івана Цярэшкі быў падабраны акцёр-беларус»... «трэба першым чынам дабіцца, каб усім было ясна, што **беларускае кіно павінна ствараццa сіламі беларускіх акцёраў»...** «Час ужо паклапаціцца пра **стварэнне беларускай акцёрскай школы».** У сувязі з пастулатам стварыць беларускую акцёрскую школу асабліва вымоўнае наступнае: «...Як мы неашчадна часам ставімся да сваіх кадраў, як мала даражым традыцыямі. Не так даўно грамадскасць рэспублікі святкавала 40-годдзе беларускага кіно. Аднак на выстаўках і стэндах, прысвечаных гэтай даце, амаль не было матэрыялаў аб фільмах дваццатых і трыццатых гадоў, не адзначалася работа ў кіно Міхася Чарота, Анатоля Вольнага, не было фатаграфій першых беларускіх кінаакцёраў, такіх, як У. Крыловіч і інш».

**Сакрат Яновіч**

(усе падкр. — с.я.)

## ПОЛЬШЧА

### ДАГАВОР

1.III. у Варшаве падпісаны Дагавор дружбы, супрацоўніцтва і ўзаемадапамогі паміж Польшчай і Чэхаславакіяй. Будзе ён прадаўжэннем падпісанага 20 гадоў таму назад польска-чэхаславацкага дагавору. Тэкст дагавору сцвярджае, што абедзве дагаварыўшыеся дзяржавы прызнаюць няважным мюнхенскі дагавор з 1938 года, заключаны пад пагрозай агрэсіўнай вайны, у выніку якога частка Чэхаславакіі была захоплена гітлераўскай Германіяй. Абедзве дзяржавы сцвярджаюць, што асновай еўрапейскай бяспекі з'яўляецца непарушнасць існуючых дзяржаўных граніц і што пагрозай для міру ў Еўропе з'яўляюцца рэваншысцкія і мілітарыстычныя сілы Заходняй Германіі. Абедзве дзяржавы забавязваюцца ў выпадку ўзброенага нападу якой-небудзь іншай дзяржавай спяшацца з усебаковай дапамогай адна другой.

### ЗМС

Саюз сацыялістычнай моладзі (ЗМС) дасягнуў ліку мільёна членаў. Згуртоўваюцца яны ў больш 40 тысяч гурткоў, якія дзейнічаюць у рабочых, школьных і студэнцкіх асяроддзях. Больш 40% членаў працуе на розных прадпрыемствах, 5% — гэта студэнты, а 40% — вучні рознага роду сярэдніх школ. Да арганізацыі належыць 4 тысячы інжынераў, 45 тысяч тэхнікаў і 3,5 тысячы настаўнікаў.

### ГАДАВІК КАМУНАЛЬНАЙ ГАСПАДАРКІ

Выйшаў з друку „Rocznik statystyczny gospodarki komunalnej i mieszkaniowej — 1965".

З кніжкі гэтай даведваемся, што ў 1965 годзе ў Польшчы існавала 7,7 мільёна памяшканняў, з чаго большасць — 4,1 мільёна — знаходзілася ў гарадах (насельніцтва гарадоў было аднак у той час яшчэ меншае ад насельніцтва вёскі). З дадзеных гадавіка даведваемся таксама, што ў 1965 годзе пабудавана 170,5 тысяч памяшканняў на агульную плошчу 8,4 мільёна квадратных метраў. Для параўнання: у 1955 годзе было пабудавана 89 тысяч памяшканняў на 4,2 мільёнаў кв. м.

### ВЯСНА

У некаторых паўднёвых ваяводствах пачаліся ўжо палявыя работы. Сіноптыкі прадбачваюць раннюю і сонечную вясну. Тэмпература ў сакавіку мае быць крыху вышэйшай ад сярэдняй у гэтым месяцы, а ападкаў крыху менш.

### КЛЕЯНЫЯ ПЛАШЧЫ

Цэнтральная лабараторыя швейнай прамысловасці апрацавала метад шыцця мужчынскіх плашчоў пры дапамозе склейвання. Прымяненне гэтай тэхнікі дазволіць змеханізаваць складаныя швейныя працэсы і прынясе вялікую ашчаднасць нітак. Новая тэхніка павысіць таксама эстэтыку вопраткі. (п)

## ВАЯВОДСТВА

### КОНКУРС

Міліцыя супольна са шматлікімі ўстановамі і арганізацыямі аб'явіла конкурс пад лозунгам: «Не дапускайма да няшчасных здарэнняў сярод дзяцей і школьнай моладзі на дарогах!» Суарганізатарам конкурсу з'яўляецца таксама наш тыднёвік. Конкурс працягваецца да 31 мая г.г. Удзельнікі яго абавязаны правесці шмат розных мерапрыемстваў, якія садзейнічалі б узросту бяспекі на дарогах у наваколлі, дзе яны жывуць і вучацца. Дакладна аб гэтым конкурсе расказвае спецыяльная інструкцыя, якую павінны атрымаць усе школы. Для найлепшых удзельнікаў прадбачваюцца вартасныя ўзнагароды.

### АГУЛЬНАЯ ЗЯМЛЯ

На Беласточчыне, асабліва ў Гайнаўскім, Бельскім, Сямяціцкім і Сакольскім паветах, шмат зямлі знаходзіцца ў супольным карыстанні цэлай вёскі. Для загаспадаравання яе некалькі год таму назад былі пакліканы амаль 300 вясковых суполак. Пад іх апекай знаходзіцца зараз больш 13 тысяч гектараў лугоў і зямельных угоддзяў. Дагэтуль загаспадаравалі вясковыя суполкі 1785 га.

Крытычны аналіз дзейнасці гэтай сялянскай арганізацыі правяло нядаўна бюро камітэта па сельскагаспадарчых справах ВК ПАРП.

### ЮБІЛЕЙ

Таварыства свецкай школы адзначала свой юбілей — 10-цігоддзе дзейнасці. На Беласточчыне налічвае яно 5 800 членаў, аб'яднаных у 385 гуртках. ТСШ разгарнула шырокую прапагандысцкую дзейнасць. Яно змагаецца за свецкае выхаванне моладзі і старэйшых. Лектары ТСШ толькі за мінулы год правялі ў ваяводстве больш тысячы гутарак

У час урачыстага пасяджэння, якое адбылося з нагоды юбілея, найбольш актыўныя дзеячы ТСШ атрымалі адзнакі «Тысячагоддзя Польскай Дзяржавы». Выступаў таксама ансамбль БГКТ.

### ВУЧНІ АБ ППР

Вучні гайнаўскага агульнаадукацыйнага ліцэя — па ініцыятыве школьнай арганізацыі Саюза сацыялістычнай моладзі і дырэкцыі школы — наладзілі папулярна-навуковую сесію, прысвечаную 25-годдзю ППР. Вучні падрыхтавалі і прачыталі аж 6 дакладаў, у якіх ахарактарызавалі ўзнікненне і дзейнасць Польскай рабочай партыі ў Гайнаўскім павеце. Сесія была змястоўная і цікавая.

### ПЕРАД ПАВОДКАЙ

Напрадвесні заўсёды выступае пагроза паводкі. У мінулым годзе страты ад яе перакрочылі 3,5 мільёна злотых. Паводка найбольш пагражае надбугскім вёскам у Сямяціцкім павеце і некаторым мясцовасцям у Манецкім і Аўгустоўскім паветах. Ваяводскі супрацьпаводкавы камітэт аб'явіў поўную гатоўнасць да папярэджвання гэтага няшчасця. (вр)




NIEDZIELA 12.III.

8.15 Politechnika TV; 10.45 „W starym kinie"; 11.45 PKF; 11.55 Dziennik; 12.05 Występ zespołów amatorskich; 12.45 „Wielkie sprawy małych działek"; 13.00 Sprawozdanie sportowe; 13.45 „Czarownice" — film; 14.10 „Przemiany"; 14.35 Teatr Młodego Widza; 15.15 „Ludzie i zdarzenia"; 15.30 „Piórkiem i węglem"; 15.50 „Verbum mercatoris"; 16.35 II Halowe Igrzyska Europejskie w lekkoatletyce; 17.45 Estrada Literacka; 18.25 „Spotkanie z pisarzem Janem Parandowskim"; 18.55 „Słownik wyrazów obcych"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.00 Niedzielny program rozrywkowy (Berlin); 20.50 Sprawozdanie sportowe; 22.05 „Paryski listonosz", film fab. fr.; 23.30 Wiadomości sportowe.

PONIEDZIAŁEK 13.III.

16.40 Dziennik; 16.50 Dla dzieci; 17.20 Dla młodych widzów; 18.05 „Czechosłowacja — ziemia nieznana" — rep. film.; 18.30 Filmowy progr. słowacki; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.05 Wystąpienie Ambasadora CSRS; 20.20 „Autorewia"; 20.55 „Podniebna sztafeta" — film dokument. CSRS; 21.10 Teatr Telewizji Czechosłowackiej; 22.35 Dziennik.

WTOREK 14.III.

10.55 Dla szkół: (kl. X) Język polski — W. Szekspir „Sen nocy letniej"; 11.40 „Matka i milczenie" — tv film fab. NRD cz. I; 15.25 „Zasady przechowywania i mieszania nawozów sztucznych"; 16.00 Politechnika TV; 17.00 Dziennik; 17.05 „Młodzi wynalazcy"; 17.20 „Klub pod Smokiem"; 17.50 Telekram; 18.00 „Ich uniwersytety" — rep.; 18.25 „Giełda piosenki"; 19.00 Kurier Warszawski; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.00 „Matka i milczenie" — tv film fab. NRD cz. I; 21.25 „Panorama Literacka"; 22.05 Dziennik; 22.25 Politechnika TV.

ŚRODA 15.III.

8.55 „Matka i milczenie" — tv film fab. NRD cz. II; 9.55 Dla szkół: (kl. VI) Fizyka — „Ciśnienie atmosferyczne"; 10.55 Dla szkół: (kl. VIII) Wychowanie obywatelskie — „Będę oficerem"; 11.55 Dla szkół: (kl. VIII) Chemia — „Wapienie"; 16.30 „Podkiełkowanie ziemniaków"; 16.40 „Stare gagi"; 16.55 Dziennik; 17.05 Dla młodych widzów; 17.25 PKF; 17.35 „Krajowe Targi Poznańskie" — rep.; 18.00 Magazyn Medyczny; 18.30 „Jazz w Filharmonii"; 19.00 „Rozmowy o współczesności" — przed kamerą prof. dr K. Grzybowski; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.00 „Być albo nie być" — film CSRS; 21.15 „Matka i milczenie", tv film fab. NRD cz. II; 21.15 „Światowid"; 21.45 Dziennik.

CZWARTEK 16.III.

9.55 Dla szkół: (kl. VI) Język polski — „Fryderyk Chopin"; 11.55 Dla szkół: (kl. V) Historia — „Na książęcym zamku"; 16.15 „Nawozy potasowe i fosforowe"; 16.45 „Las się budzi" — film radz.; 16.55 Dziennik; 17.00 Kino Ptyś; 17.15 „...trzy, dwa, jeden, zero — start!" odc. IV; 17.35 „Medale i detale"; 18.00 „Kwadrans zagadek" — teleturniej; 18.20 „Klub dobrych gospodarzy"; 18.45 Cygański zespół „Terno"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.00 „Świat Bosmana Lukacsa" — rep. film.; 20.15 „Ścigany" — film fab. ang.; 21.35 Wszechnica TV; 22.05 Dziennik.

PIĄTEK 17.III.

11.55 Dla szkół: (kl. XI) Propedeutyka filozofii — „Odpowiedzialność moralna"; 12.45 Dla szkół: (kl. VIII) Zajęcia techniczne — „Kropka — kreska"; 15.30 „Sto lat — to nie zaszczyt" — rep. z Kijowskiego Instytutu Gerentologii i Geratrii o problemach długowieczności; 16.55 Dziennik; 17.00 Dla dzieci: film; 17.10 „Latający Holender" — rejs trzeci; 17.40 „Przygody Robinsona Cruzoe" — film fr. odc. III; 18.05 Wszechnica TV; 18.35 „Wielokropek"; 18.50 „Azymut"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.00 Kurier Mazowiecki; 20.15 „Obca krew" — film fab. radz. wg M. Szołochowa; 21.40 „Drzwi otwarte" — program studencki; 22.10 „Rozmowy o książkach"; 22.25 Dziennik.

SOBOTA 18.III.

9.55 Dla szkół: (kl. VII) Geografia — „Norwegia"; 10.25 „Ambicja" — film fab. radz.; 11.55 Dla szkół: (kl. VIII) Biologia — „O zaburzeniach psychicznych"; 14.00 Zawody narciarskie o Memoriał B. Czecha i H. Marusarzówny. I Konkurs skoków. (Zakopane); 16.20 Program tygodnia; 16.40 „Wychowanie fizyczne naszych dzieci"; 16.55 Dziennik; 17.00 „Dla każdego coś miłego"; 17.45 „Spotkania z przyrodą"; 18.10 „Tele-Echo"; 19.00 „Wieczorne rozmowy"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Monitor; 20.00 „Wahadło" — film CSRS; 20.15 „Znane melodie operetkowe i filmowe" (Frankfurt); 21.15 Reportaż filmowy z Zakopanego z Zawodów Narciarskich o Memoriał B. Czecha i H. Marusarzówny; 21.30 „Błękitny express"; 21.55 Dziennik; 22.10 Wiadomości sportowe; 22.20 „Jego dziewczyna" — film fab. wł.-franc.




10 KWIETNIA, PIĄTEK

13.45 Program; 13.50 Dla uczniów; 14.20 Zorany ugór. Film. 2 seria; 15.55 „Panorama Białoruska"; 16.30 Poczta białoruska; 17.00 Program przedwyborczy; 19.30 Sztafeta nowin; 20.15 „Matka i milczenie". Film. 2 seria.

11 KWIETNIA, SOBOTA

9.00 Teatr młodzieżowy; 11.00 Dla harcerzy; 13.20 Program; 13.25 Dla przedszkolaków. Film; 14.15 Co wiecie o Morzu Czarnym? Program z Soczi; 15.00 Dziennik; 15.15 „Od lutego do Października". (Leningrad); 15.30 Klub Filmowy; 16.30 Teatr telewizyjny; 17.30 „Ogoniok" (Kijów); 18.30 Dziennik; 19.00 Lekkoatletyczne mistrzostwa Europy; 20.00 Program muzyczny z NRD.

12 KWIETNIA, NIEDZIELA

7.55 Program; 8.00 „Budzik"; 8.30 Gimnastyka; 9.00 Program przedwyborczy; 9.45 „Przedmieścia Lenigradu"; 10.00 Hokejowe zawody drużyn dziecięcych; 11.50 „Białe i czarne"; 12.10 Dla uczniów; 13.00 Film animowany dla dzieci; 13.30 „My — naród rosyjski". Film. 1 seria; 14.40 Dziennik; 15.00 Kiosk muzyczny; 15.30 „Mity XX wieku"; 16.00 Lekkoatletyczne mistrzostwa Europy; 18.00 Dziennik; 18.25 „My — naród rosyjski". Film. 2 seria; 19.45 Dziennik, 20.00 Program rozrywkowy z NRD; 20.45 Podróże telewizyjne.

# ДРУЖАЛЮБНЫЯ СУСТРЭЧЫ

Шырока адзначалася святкаванне 49-ай гадавіны Савецкай Арміі на Гайнаўшчыне. 23 лютага сюды прыехаў прадстаўнік Савецкай Арміі падпалкоўнік **Андрэй Афанасьевіч Гарленка.**

Машына з госцем накіроўваецца да новапабудаванай **школы № 2 у Гайнаўцы,** якая носіць імя героя Савецкага Саюза **Аляксея Фларэнкі,** малодшага лейтэнанта паўшага ў баях за вызваленне Гайнаўскай зямлі. Палкоўнік А. А. Гарленка ў суправаджэнні намесніка кіраўніка аддзела прапаганды ВК ПАРП А. Гжэськевіча, сакратара ПК ПАРП Л. Бартосяка і кіраўніка школы Пятра Гіншта накіроўваецца ў вялікую залу, запоўненую вучнямі і настаўнікамі. Прысутныя вельмі цёпла вітаюць савецкага госця, падносяць яму кветкі. Вучаніцы розных класаў дэкламуюць савецкія вершы. Адна з іх чытае біяграфію свайго героя Аляксея Фларэнкі. Хаця вучні амаль усе яе ведаюць, у зале цішыня. Слухаюць слоў, як аб сваім старэйшым браце, таму што калі загінуў, быў яшчэ малады. Вучаніца чытае, што А. Фларэнка нарадзіўся ў 1922 годзе ля Растова на Украіне, што ў арміі пачаў служыць ад лістапада 1941 года ў ваеннай часці № 139, што ўжо 5 снежня быў на фронце. Затым вучаніца чытае пісьмы Аляксея да маці, аб гераічных подзвігах, калі яго аддзяленне знішчыла 38 аўтамашын ворага, або 18 разоў адбіваў контратакі. Гляджу на застылую масу дзяцей. Штораз спаглядаюць яны то на партрэт А. Фларэнкі, вісеўшы на сцяне, то на палкоўніка А. Гарленка і адчуваецца, як вельмі хацелі б, каб сярод гасцей быў Ён, іх герой, Аляксей Фларэнка.

«Цікава, які чын меў бы гэты наш Фларэнка?» — думае не адзін з сядзеўшых побач хлопцаў, гледзячы на пагоны і дзве вялікія зорачкі падпалкоўніка.

Зала грамадскага цэнтра культуры ў Нараўцы не змяшчае людзей. Кожны, старэйшы і малодшы, жанчына і мужчына прышлі сюды, каб сустрэцца, пачуць, а мо' пагаварыць з савецкім воінам. Прыбыўшага госця сардэчна вітаюць старшыня ГРН **Мікалай Раманчук** і сакратар грамадскага камітэта ПАРП **Рыгор Русак.** Словы падпалкоўніка аб тым, што ён змагаўся ў час II-ой сусветнай вайны і за польскую зямлю ў аколіцах Сандомежа, Чэнстаховы і Кракаўскага ваяводства, як бы хацеў кожны сабе засвоіць. У некаторых у вачах паказваюцца слёзы. Прадстаўнікі маладога пакалення падносяць гасцям кветкі. Зала гучыць ад апладысментаў. Сардэчная сустрэча афіцыяльна закрываецца, але тав. А. Гарленка зноў вяртаецца ў шчыльна забітую людзьмі залу. Пачынаюцца непасрэдныя размовы, успаміны. Многія з прысутных ваявалі ў радах Савецкай Арміі. Марыя Бароўская вымае з хустачкі пісьмы, пажаўцелыя ад часу. Чытае пісьмы, якія пісалі да яе сяброўкі на фронце. На другім лісточку фіялетавым чарнілам перапісана франтавая песня, перапісаная не цяпер, а ў час вайны. Марыя пасля вызвалення Савецкай Арміяй добраахвотна пайшла служыць медсястрой.

— Гэтыя пісьмы — мой скарб, — гаворыць Вера, — заўсёды іх нашу пры сабе.

Размовы працягваюцца і працягваюцца. Ім няма канца. Святочна і радасна было ў той дзень у Нараўцы.

**А. КАРА**
Фота аўтара



**Падпалкоўнік А. Гарленка з Марыяй Бароўскай у час сустрэчы з жыхарамі Нараўкі.**



**Вучаніца школы імя Аляксея Фларэнкі ў Гайнаўцы чытае біяграфію героя.**



**(Працяг са стар. 1)**

# Райкі — легенда і праўда

### ПОСТАЦЬ ЧАЛАВЕКА СВАЙГО...

Рыгор Семянюк начытаны газетамі, напічкаваны прамовамі — іх стылем, словамі, доўгімі сказамі. Але не бяздушна. Гаворыць, як прафесар: з перапынкамі, інтанацыяй голаса, хвіліннымі задумамі. Слухаеш яго з прыемнасцю. Чакаеш з нецярплівасцю, якое слова вось-вось скажа і як у той момант замільгацяць сінія па-беларуску яго вочы. Вобразнасць народная мяшаецца з напушанасцю кепскага афіцыйнага стылю: «паміма вялікіх труднасцей, якія зрадзіліся на тым тле, што не ўсе ў вёсцы былі за будовай, а было толькі 15 такіх, што хацелі будаваць. Іншыя глядзелі, як перун на жабу».

### ПРАЎДА МАЕ АБЛІЧЧА ПРАКТЫЧНАЕ

Легенда прыціхла і святліцу ў Райках апанаваў міністэрска-дырэктарскі тэлевізар. Набіта яна вечарамі. Драматычны гурток не працуе. Рыгор Семянюк, які яшчэ ў 1965 годзе ездзіў з ім па фестах, цяпер вельмі цешыцца сваім пацешным унучкам. Удзельнікі старога гуртка пажаніліся. А новыя? Новыя вучацца. Многа даязджае ў Бельск. І гэта нармальны працэс. Культурную працу, якой лічым мастацкую самадзейнасць, найчасцей драмгурткі, выпірае звычайна і проста навука маладых. У вёсках усё часцей не хапае людзей, каб займацца самадзейнасцю, бо ўсё больш маладая вёска не канчае сваёй адукацыі на пачатковай вясковай школе.

А святліца? Яе легенда абвеяна рамантыкай. Яе праўда зводзіцца да практычнасці. Ад імя ўсяе вёскі Райкі і суседніх Рыгор Семянюк вядзе перагаворы з уладамі, шукае дарог, каб і ў палове святліцы зрабіць краму. Культурныя аддзелы абрушыліся. Яны не могуць культуру спалучаць з гандлем, хоць бы і палова святліцы пуставала, як цяпер. Мо, клуб-кавярню, — кажуць. А людзі ў Райках аргументуюць такімі празаічнымі словамі: «Як былі б адкладні, сашнікі, гвоздзі, то гаспадарам было б вельмі добра. Клуб адзін быў у нас і ніхто туды кавы піць не хадзіў. Не здаў ён экзамену».

Сам Семянюк прыгоды святліцы замыкае так: «І так усё змаганне ў жыцці. І тая барба ўсё за лепшае, святлейшае і... шчаслівейшае заўтра».

Замоўк. Скончыў лекцыю. Схаваў зноў у нагрудную кішэню стары дрэнны здымак святліцы.

**ВЕРА ЛЕЎЧУК**
Фота В. Рудчык

### У 49-УЮ ГАДАВІНУ САВЕЦКАЙ АРМІІ

23 лютага г. г. праўленне Варшаўскага аддзела БГКТ, супольна з аддзелам Рускага культурнага таварыства і кіраўніцтвам гарнізоннага клуба салдата наладзіла ўрачыстую акадэмію, прысвечаную 49-ай гадавіне стварэння Савецкай Арміі. З уступным словам выступіў В. Швед, які прывітаў прысутных за прэзідыяльным сталом: генерала брыгады Войска Польскага Самуіла Малько, прадстаўніка Савецкай Арміі палкоўніка Алега Сяргеевіча Мелказёрава, старшыню праўлення аддзела Рускага культурнага таварыства Вячаслава Якімчука, галоўнага рэдактара украінскай газеты «Нашае слова» — Міколу Шчырбу, а таксама ўсіх прысутных у зале.

Са змястоўным дакладам аб гераічным шляху, пройдзеным Савецкай Арміяй на працягу сваёй 49-гадовай гісторыі выступіў палкоўнік А. Мелказёраў.

У багатай мастацкай частцы акадэміі прымаў удзел варшаўскі беларускарускі хор пад кіраўніцтвам Барыса Мулярчыка пры акампаніяменце тав. Гумберга, салісты хору: Яўгіня Карпінская, Аляксандр Жэланец і Уладзімір Багун.

У выкананні хору і салістаў прысутныя ў зале пачулі беларускія, рускія і польскія песні, у першую чаргу ваенныя, аб Савецкай Арміі. Найбольш падабаўся публіцы саліст хору А. Жэланец. Вылучаліся ў яго выкананні беларускія песні «Нёман» і «Бульба».

З поспехам выступіў таксама эстрадны калектыў гарнізоннага клуба салдата.

**ВІКТАР ШВЕД**

А. Баршчэўскі, В. Швед

# Дружба і праца

**Хрэстаматыя для VIII класа**

### НА ПЫЛЬНАЙ ДАРОЗЕ

Паабапал жвірыстай дарогі кальпшацца леташні быльнік, і веснавая шырыня вее над неабдымным полем. Неба сіняе, сонечнае; над дарогаю тонкі, як туман, падымаецца пыл — плыве вецер з-за сініх лясоў, і на дзернавых узмежках пры жоўтых каляінах шуміць сухі палын.... Моцна думаюць голыя яшчэ кусты, а за імі, далей, пярэсцяцца колеры зямлі: зялёныя ўзгоркі, ціхія лагчыны, рэдкія чорныя палосы першай раллі і леташняя шэрань веснавой цаліны.

Вецер прынёс аднекуль сухі жмут аўсянай саломы, прыпёр да сухога быльнікавага куста, растрасае патроху і разганяе па саломіне ў полі, салома звонка шалясціць і навявае задумёнасць вялікай далечыні.

Моцна шуміць яшчэ нейкае зелле, пуразімаваўшае, падгніўшае, цяпер сухое і шэрае. У яго галоўках захаваліся, мусіць, зярняты — маленькія, порсткія птушкі гаварлівымі сем'ямі прылятаюць і клююць іх.

Дарога — ад таго, што шырокая, ветраная і пыльная — вясёлая. Шырокі паварот з яе ў горад; горад блізка, і не відзен за блізкімі ўзгоркамі, і каля павароту куча бітых каменняў, пры зямлі абмалёваная зялёным шлакам травы.

Нам слаўна было сядзець тут на гэтых каменнях; і мы сядзелі — сушылі на ветры спацеўшыя шыі і маўчалі. Шмат было перагаворана дарогаю — паволі прайшлі мы з ім разам трыццаць вёрст, многа я зразумеў у яго без слоў, і цяпер трэба было разыйсціся, таксама як выпадкова сышліся па дарозе. Было яму год дванаццаць, а я ішоў у горад, дзе ўжо жыў. Убачыў быў я яго пасярод дарогі — ён стаяў, растапырыўшы босыя ногі і ў палатаных портках, і трымаў у руках шапку.

— Што ты робіш? — запытаў я, праходзячы міма.

— Пчолы нейкія, каб на іх упадкі, з зямлі вылазяць, — адказаў ён з вялікай сталасцю дарослага, і гэта вышла ў яго смешна, па-дзяцiннаму: — адна ліха ёй, джала дала мне ў нагу, чорт яе бачыў, ішоў ды наступіў.

Ён даў раптам з-за вуха шапкаю па зямлі і з расчараваннем сказаў:

— Уцякла, каб яна здохла...

І пайшоў са мною:

— Куды ты ідзеш?

— Гэта я іду на хутары па брата. Ён там цэлую зіму служыў, значыцца, а гэта як памёр айчым наш, дык трэба, каб дома быў, неканечна яму было і так ісці, але што ты парадзіш?

— А даўно айчым памёр?

— Нядаўна.

— А маці жыве?

— Маці жыве.

— А больш хто ў вас ёсць?

— А больш у нас яшчэ дзяўчыны дзве ёсць старшыя за мяне сёстры, дык яны дома, нідзе не служылі, бо яны хоць бабы, але цвярдзейшыя за Васіля, дык айчым іх не мог выкурыць з хаты.

— А хіба ён выкурваў?

— Уга... Ён чуць Васіля на той свет не адправіў, як пачаў грызці. Дык той і пайшоў у людзі.

— Маці што?

— Дык жа ён чуць і мацеру ў труну не ўвагнаў — азіят нейкі быў, а не чалавек.

Гаварыў ён стала, як дарослы. І відно было, што пражытыя на свеце дванаццаць год навучылі яго многаму, паказвалі яму многа бакоў жыцця, накалілі яго і давялі да вострай цвёрдасці.

І цяпер ён ішоў па брата, адзін, па пустой ветранай дарозе. Ён і забаўляўся ідучы і разважаў стала: і наглядаў, і абдумваў. Твар яго, у лішаях ад сонца і ветру, меў на сабе ўсе адзнакі халоднай сталасці і прывычкі — вялікае лічыць часам малым; і толькі калі-нікалі прарываліся ў ім нязгладжаныя яшчэ дзіцячыя манеры.

—А ты гаспадарыў ужо?

— Я летась адзін паараў усё. Айчым тады ўжо хварэць пачаў.



(Працяг са стар. 1)

# Беларуская вёска і этналогія

тэрыторыі беларусаў, і ад якіх беларусы перанялі многа гэтых элементаў. Падобна трохпольная сістэма была вядомай у Заходняй Еўропе і Польшчы значна раней.

Факт, што ўся гэтая шматстагоддзевая нязменная традыцыя распалася амаль даслоўна на нашых вачах, дазваляе нам думаць аб нашых часах, як аб часах выключных, часах несустраканых ніколі раней перамен.

Адначасова аднак факты гэтыя прымушаюць задумацца над дзіўнымі лёсамі чалавечай культуры, над яе вялікай устойлівасцю і нязменнасцю ў некаторыя часы і хуткімі пераўтварэннямі ў іншыя. Устойлівасць беларускай народнай культуры Беласточчыны на працягу, — як мы ўжо сказалі, — 400-гадовага існавання тым цікавейшая, што продкі нашыя маглі даўно ад суседзяў засвоіць больш рацыянальныя і эканамічныя прылады і спосабы гаспадаравання. Так, напрыклад, значна больш эканамічны ад сахі плуг быў у Польшчы вядомы ўжо ў XI стагоддзі[4]), а на суседняй Мазовіі сяляне карысталіся ім прынамсі некалькі стагоддзяў раней[5]). Сяляне — беларусы аднак толькі ў першых гадах XX стагоддзя рашыліся на гэты істотны крок у прагрэсе гаспадаравання: на замену сахі плугам.

**Ул. ПАЎЛЮЧУК**

---

[1]) Zygmunt Bauman: Kultura a społeczeństwo. Preliminaria. Warszawa 1966. Władysław Bieńkowski: Problemy teorii rozwoju społecznego, Warszawa 1966.
[2]) Jan Czekanowski: Wstęp do historii Słowian. Poznań, 1957, str. 399—402.
[3]) Там жа, стар. 402—408.
[4]) Władysław Ochmiański: Gospodarowanie na roli na ziemiach Polski w rozwoju dziejowym. Warszawa 1959, str. 177—181.
[5]) Марьян Покропек: Традиционные земледельческие орудия Мазовии на фоне экономических преображений XIX и XX в. Zeszyty etnograficzne Muzeum Kultury i Sztuki Ludowej w Warszawie. T. III.




Вяртаючы карткі сёлеташняга бюджэту Галоўнага праўлення наткнуўся я на пазіцыю **«пакупка аўтобуса — 300 тыс. злотых».** Неяк лягчэй стала на сэрцы. Усё ж старым аўтобусам даводзілася і мне не раз ездзіць, пхаць, памагаць развінчваць і таму падобнае. Зрэшты, што гэта быў стары хлам, вельмі многія аб гэтым ведалі ў ваяводстве, а перад усім вучні нашых школ, якіх стары ЗІС або не давозіў да Варшавы, псуючыся, або на паўдарогі з Варшавы зацінаўся і далей ні за што не хацеў ехаць. Аднак адкінуўшы іронію трэба сказаць, што **гэты ж ЗІС у 1961—1964 гадах кожны год адбываў 60—90 экскурсій.** Удзельнікамі іх былі члены паасобных гурткоў Таварыства, павятовых аддзелаў, актыў, а перад усім школьная моладзь. Аўтобус неяк спаўняў ролю свайго роду сувязі між школай а Таварыствам, таму што іншай працы з дзяцьмі Таварыства амаль што не вядзе.

Але стары ЗІС у апошні час увогуле не хацеў ездзіць, а калі ўдалося «запаліць», дык у час язды быў надта не эканамічны і таму вырашана яго прадаць. Вельмі слушна. Новага пакуль яшчэ няма. Аб яго патрэбе пісаў у «Ніве» Сяргей Філіпюк Паўтараць яго доказаў не буду. Чуў я аднак прапановы, каб зрэзігнаваць з пакупкі аўтобуса, а лепш купіць «Нысу» для эстрады, таму што гэтая, што ёсць, ужо знішчана. **Ад імя С. Філіпюка і іншых кіраўнікоў школ, беларускага турыстычнага актыву і ад сябе галасую за пакупкай у першую чаргу аўтобуса.** Нашым жаданнем было б, каб у «Міжнародным Годзе Турыстыкі» як найбольш скарыстаць з новага аўтобуса.

А. К.

---

**З ЖЫЦЦЯ БГКТ**

# СУСТРЭЧА ЛІЦЭІСТАЎ

26 лютага г. г. у памяшканні Галоўнага праўлення БГКТ адбылася першая сустрэча членаў «Клуба ліцэістаў». Сход адкрыў сакратар ГП **Уладзімір Юзвюк.** Аб дагэтуляшняй працы «Клуба» і яго перспектывах гаварыў рэд А. Карпюк. Справам беларускага літаратурнага руху, яго дасягненням і напрамкам прысвяціў сваё выступленне паэт **Віктар Швед.** У нарадзе прынялі таксама ўдзел візітатар куратарыума школьнай акругі ў Беластоку **Ян Канапелька,** старшыня аддзела БГКТ у Гайнаўцы **Аляксандр Іванюк,** настаўнікі бел. мовы з ліцэяў у Бельску і Гайнаўцы **І. Бернат і М. Сакоўскі,** кіраўнік аддзела ГП **М. Лобач** і прадстаўнік выдавецкага аддзялення ГП **Ада Чэчуга.**

У семінары прыняло ўдзел 27 ліцэістаў з ліцэяў у Гайнаўцы, Бельску і Міхалове. Шкада толькі, што не было прадстаўнікоў беларускіх класаў з Педагагічнага ліцэя.

Ліцэісты ў час сустрэчы чыталі свае творы. Пасля кожнага чытання адбывалася цікавая і на высокім узраўні дыскусія. На ўвагу заслугоўвае і тое, што ўпершыню ў «Клубе» прынялі ўдзел прадстаўнікі **ліцэя ў Міхалове** (Вера Міруць і Анатоль Сянкевіч). Апавяданне Веры «Раненае сэрца» таксама як і іншых, выклікала шырокую дыскусію як сярод ліцэістаў, так і прысутных гасцей. Трэба падкрэсліць, што ліцэісты часта прадстаўлялі свае супярэчныя ў адносінах да гасцей погляды, баронячы адкрыта сваіх думак.

Усе былі згодны са словамі старшыні Гайнаўскага аддзела БГКТ мгра Аляксандра Іванюка, што **сустрэча была вельмі ўданая.** Прысутныя пастанавілі лічыць гэтую сустрэчу першым семінарам «Клуба» і выразілі жаданне сустракацца сістэматычна.

(К)

---

# Бацькоўскі камітэт

У Гайнаўскім павеце ёсць іх 98. Аж 902 асобы заангажаваны да грамадскай дапамогі школе ў выхаванні, навучанні і матэрыяльных справах. Найнавейшыя дадзеныя гавораць, што ў бацькоўскіх камітэтах 36,4% — гэта людзі, якія не маюць закончанай пачатковай школы, а 52,5% — закончыла пачатковую школу. Тых, што закончылі сярэднюю і вышэйшую адукацыю, усяго 100 асоб. Першыя два лікі датычаць у асноўным вёскі і тут многа нельга змяніць, а ў



**«...Тут людзі хочуць і працуюць ахвярна для школы», — гаворыць мгр Казімір Амяльянчык — кіраўнік школы.**

сувязі з тым трэба прызадумацца, як навучыць гэтых, часта актыўных і ахвярных людзей прынамсі мінімальнага разумення педагагічных працэсаў. У сувязі з тым таварышы з Гайнаўкі пастанавілі прыйсці з дапамогай бацькоўскім камітэтам паводле правіла: спачатку школа для асяроддзя, а потым асяроддзе для школы.

### АДЗІН З 98

Бацькоўскі камітэт пры школе ў **Нараўцы** працуе добра. На 36 членаў камітэта — 17 гэта жанчыны.

— Такая колькасць жанчын вельмі карысная, — гаворыць кіраўнік школы **Казімір Амяльянчык,** — таму, што жанчыны непасрэдна лепш умеюць працаваць з дзяцьмі. Пры нашым камітэце добра дзейнічае рэвізійная камісія, якая часта праводзіць фінансавыя кантролі і **інфармуе аб гэтым бацькоў на кожным сходзе.** Камітэт у Нараўцы ўзначальвае **Антон Мялешка** — кіраўнік складу ЦПН і адначасова сакратар прапаганды грамадскага камітэта ПАРП і яго намеснік **Васіль Рубчэўскі,** які ад сямі год з'яўляецца душой камітэта. **Вера Бароўская** — працаўнік ГРН, **Міхась Бяглюк** — старшыня рэвізійнай камісіі, **Аляксандра Бялюк** і **Стэфанія Муленка** — гэта самыя актыўныя бацькі — памочнікі школы.

Гаспадарчая дзейнасць у Нараўцы — дасканалая. Не толькі можна яе ўбачыць у фінансавых планах, дзе напісана, што ў гэтым навучальным годзе камітэт будзе мець даходы **66 240 зл.** і такія ж выдаткі. Перад усім, гэта відавочна ў самой школе, у чыстых класах — кабінетах, у навуковых дапаможніках, якія камітэт купляе школе, у арганізацыі чытальні і школьнага беларускага музея.

### ВЫХАВАЎЧЫЯ СПРАВЫ

Нельга сказаць, што ў гэтай галіне ўсё выглядае ідэальна. Усё ж трэба адзначыць, што ідэйна-выхаваўчая праца з бацькамі ў Нараўцы вядзецца даўно. У асноўным канцэнтруецца яна на агульных сходах бацькоў, дзе 3 разы ў год выступаюць з лекцыямі лектары, настаўнікі і члены бацькоўскага камітэта. Напрыклад, мясцовы лекар меў даклад аб хваробе жаўтусе, прадстаўнік санэпіду — аб чысціні панадворкаў, камендант міліцыі — аб непаўналетніх злачынцах і адказнасці бацькоў і т. п. Але гэта не задавальняе кіраўніка школы і настаўнікаў. Незадоўга справы выхаваўчай дзейнасці будуць перапрацаваны, г. зн. пашыраны. Бацькі згодна са сваімі прафесіямі змогуць прыняць непасрэдны ўдзел у працы школьных арганізацый: медсястра ці лекар — у ПЦК, працаўнік ГС ці крамы — у вучнёўскай спулдзельні, міліцыянер — у маладзёжнай службе руху і т. п.



**Вера Бароўская і Васіль Рубчэўскі абмяркоўваюць арганізацыю даходнай забавы. Даход будзе прызначаны на патрэбы камітэта.**

Незалежна ад таго, бацькоўскі камітэт можа прыйсці з дапамогай пры навучанні прадмета «Грамадзянскае выхаванне» ў VII і VIII класах.

Так ёсць і так мае быць у Нараўцы. Сапраўды, месца не дазваляе на тое, каб апісаць аб усім. Але яшчэ раз варта за кіраўніком школы паўтарыць: у Нараўцы людзі хочуць і працуюць ахвярна для школы.

**А. КАРПЮК**
Фота аўтара

---



— А цяпер айчыма шкада?

— Цяпер не... Але шкада маткі, бо яна нездараўчаная вельмі. Хто яе ведае, ці пажыве яна доўга на свеце. Мы то не прападзём — мы ж усе ўжо ўзняліся на ногі, але яна як... Мы ж яшчэ яе нічым не пацешылі...

Ён моцна аб нечым стаў думаць і змоўк. І твар яго раптам ажыў. Пачалі, як цені да хмар у ветраны дзень па зямлі, праходзіць па твары яго адзнакі перажытага смутку і ўздымаў, адбітак як бы нейкай мудрасці пазнання жыцця з'явіўся на ім і ўпэўненасць у неабходнай патрэбе пацешыць матку і моцнае жаданне гэтага, важнае і для яе і для яго. І зусім не адбілася на твары яго непаразуменне перад тым, што гэта ж сам ён нічым яшчэ не пацешыўся.

Толькі хутка шырокае нешта і надзвычай тонкае лягло на гэты сталы і глыбокі твар, і яно паведаміла пра вялікую ўцеху, вылаўленую ў жыцці з самога жадання пацешыць матку, з самога працэсу падарожжа да брата, і ва ўсім, што даводзілася рабіць, у самым тым, што трэба было дзейнічаць.

У тым, што ён сказаў, было сказана самае важнае, і ўсё іншае стала зразумела, і была асалода глядзець на гэты сталы не па-дзіцячаму твар...

Ён шырока ступаў па пыльнай дарозе.

— Тымчасам так, — загаварыў ён, — хутка аўсы будзем сеяць...

І зноў змоўк і задумаўся.

— Ногі баляць, — падаў ён яшчэ голас. — Я цяпер паляжаў бы, скурчыўшыся пад кустамі дзе на сонцы, але да вечара дайсці трэба.

І ўжо ў менш, як мне здалося, значных гаворках і многа моўчачы прайшлі мы астатак дарогі да павароту і на каменнях прыпыніліся.

Ён дастаў з кішэні сваіх палатняных портак кавалак хлеба і пачаў ламаць каравымі, тонкімі пальцамі і есці. Хлеба запах суха і кісла — так, як пахне ён, паляжаўшы ў торбе паўдня на полі, пакуль не даарэцца загон і не падыйдзе пара есці.

Нам абодвум не хацелася ўставаць, мне было бліжэй, яму яшчэ вёрст дзесяць.

— А калі назад?

— Заўтра, — адказаў ён, жмурачыся ад ветру, — заўтра з Васілём, — павесялеў ён.

Цераз паўгадзіны ён кіўнуў мне галавою і пайшоў, роўна гойдаючыся ў такт крокам. Я застаўся адзін і сачыў за тым, як бела-шэрая постаць яго патроху рабілася меншай ад роўнай далечыні дарогі і пасля зусім згінула за першым узгоркам. Пасля зноў відаць стала галаву яго — маленькую ўжо і чуць прыкметную, як цемнаватая кропка. Пасля нічога не відаць стала. Я сядзеў на каменнях і думаў аб маленькіх і нязначных здарэннях, якія слабым здаюцца вялікімі і страшнымі, і аб вялікіх і страшных здарэннях, якія моцным здаюцца маленькімі і нязначнымі. І ад таго, што гэтае дзіцянё не сагнулася і не сагнецца і ідзе сабе моцна па дарозе, — стала мне радасна і думна.

Было жаданне спяваць што-небудзь моцнае і цягучае, спяваць яго доўга без слоў і без лішняй тут вясёласці.

— Будзем зараз аўсы сеяць, — прыпомніў я яго хрыплыя словы....

Аўсы будуць улетку шумець тут паабапал дарогі; і радасная зямля ўцешыць чалавека...

Ён, малы, вырасце і таксама, як цяпер, моцна і горда пройдзе па зямлі, па дарозе...

У такіх думках я сяджу на каменнях...

Пры пыльнай дарозе шумяць палыны, і вясёлыя плачуць наводдаль каліны.

**КУЗЬМА ЧОРНЫ**

1. Якія рысы хлапчука выклікаюць сімпатыю з боку аўтара?
2. Зрабі пісьмовы пераказ апавядання.
3. Ахарактарызуй пейзажныя замалёўкі ў апавяданні.

### БІЯГРАФІЧНЫ ДАВЕДНІК

Чорны Кузьма — 1900—1944 — (сапраўднае прозвішча Міхась Кудзелька) беларускі празаік. Пачаў пісаць у 1923 г. Яму належаць зборнікі апавяданняў «Срэбра жыцця», «Па дарозе», «Пачуцці». Чорны з'яўляецца аўтарам рада раманаў. Галоўныя з іх «Сястра», «Зямля», «Бацькаўшчына», «Трэцяе пакаленне», «Люба Лук'янская».

### СЛОЎНІК

Порсткі — жвавы, рухлівы.



© PDF: Kamunikat.org 2024
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

З ПОЛЬСКА-БЕЛАРУСКІХ СУАДНОСІН

# МАНЮШКА НА БЕЛАРУСІ

Атмасфера сямейнага дома Станіслава Манюшкі мела агромны ўплыў на фарміраванне характару і таленту будучага творцы польскай нацыянальнай оперы. Як атмасфера шляхецкага дворыку, так і кантакт з народнай музыкай беларускай вёскі зрабілі агромны ўплыў на крышталізаванне індывідуальнасці кампазітара.

На жаль — ранні перыяд жыцця Манюшкі, а таксама яго юнацкія гады вельмі слаба трактуюцца біёграфамі, якія пераважна агранічваюцца да сцверджання, што творца «Галькі» нарадзіўся 5 мая 1819 года ў Убелі на Міншчыне. А на развіццё ж жыцця і творчасці Манюшкі ўплыў мела не толькі яго сельскае дзяцінства на беларускай вёсцы, але таксама пабыўка ў 30-х гадах ў Мінску, дзе вучыўся і навязаў шматлікія кантакты з беларускай інтэлігенцыяй.

З Убеля 8-гадовы Станіслаў выязджае ў Варшаву, каб там «пабіраць навукі». Прабываў тут толькі тры гады, праводзячы кожны год канікулы ў родным Убелі, а ў 1830 годзе дрэннае становішча маёнтку і кепскія фінансы бацькі прымушаюць Манюшкаў да вяртання на Беларусь. Ад 1831 года да 1837 года жывуць са сваім сынам у Мінску. Тут будучы кампазітар ходзіць у школу і вучыцца музыкі ў кіраўніка мясцовага аркестра і педагога Даменіка Стэфановіча.

Дом Манюшкаў у Мінску быў прасякнуты атмасферай культурнага жыцця. Маці Манюшкі жанчына музыкальная, спявала і іграла на фартэпіяна, арганізоўвала ў сваёй кватэры вечары, запрашаючы прадстаўнікоў мясцовай інтэлігенцыі, а таксама гастраліруючых у Мінску музыкантаў і артыстаў.

Дамінік Стэфановіч, педагог праўда не надта вялікай меры, быў, як пісаў у 1859 годзе «Тыгоднік Ілюстраваны» — «зачараваны талентам свайго вучня», і ён хіба адыграў найважнейшую ролю ў скіраванні здольнасцей маладога Манюшкі на ўласцівую дарогу.

Пачатыя сяброўскія адносіны ў юнацкія гады, калі кампазітар знаходзіўся на Беларусі, а асабліва ў Мінску, аказаліся вельмі моцнымі і трывалымі. Манюшка пасля пераезду ў Вільна, а потым у Варшаву неаднакратна прыязджае ў Мінск, дзе мае многа сяброў і знаёмых. У Мінску прабываў у 1843 годзе, дзе якраз трупа Шмідкофа паставіла першы раз аперэту Манюшкі «Латарэя». Потым Манюшка яшчэ некалькі разоў прыязджаў у Мінск (між іншым у 1860, 61, 63 гадах). Апошні раз быў у Мінску ў 1864 годзе, будучы ўжо вядомым і высака цэненым кампазітарам.

У Мінску меў ён многа сяброў. Блізкае, цеснае сяброўства і супрацоўніцтва яднала яго з беларускім пісьменнікам Вінцуком Дуніным - Марцінкевічам, які пісаў таксама пад псеўданімам Навум Прыгаворка. Вынікам гэтага знаёмства былі лібрэта, якія гэты пісьменнік дастаўляў Манюшцы. І так 23 і 24 верасня 1841 года была пастаўлена ў Мінску, для таго, каб дадаць бляску для прыезду віленскага генерал губернатара Міркевіча аперэта «Прызыў рэкрутаў» з музыкаю Манюшкі і словамі Дуніна - Марцінкевіча. Гэты самы беларускі пісьменнік таксама з'яўляецца аўтарам тэкстаў да такіх твораў Манюшкі, як опера «Цудоўная вада» і аперэта «Барацьба музыкаў».

Найбольш вартымі ўвагі супольным творам абодвух аўтараў з'яўляецца двухактавая опера «Ідылія», пастаўлена першы раз у 1852 годзе ў Мінску, а потым, у 1853—1855 гадах, таксама ў Бабруйску, Віцебску і Нясвіжы.

Як вынікае з перапіскі творцы «Галькі» — яго сувязі з тагачасным Мінскам і з тамашняй беларускай інтэлігенцыяй былі вельмі сардэчныя і моцныя. Але таксама простыя жыхары Мінска, насельніцтва беларускіх гарадоў і вёсак любілі і шанавалі Манюшку, а яго песні ахвотна спяваліся. Няма, штопраўда, чаго здзіўляцца, таму што матывы беларускага музычнага фальклору чуваць было як у шматлікіх яго песнях, так і ў музыцы аперэт і опер. Тагачасная мінская прэса ў рэцэнзіях «Ідыліі» звяртала ўвагу на цудоўныя мелодыі і танцы, якія абапіраліся на беларускіх матывах.

Аб папулярнасці Манюшкі сведчыць і той факт, што яго найлепшы твор, опера «Галька» — была ў Мінску і ў Гродна пастаўлена пасля віленскага прадстаўлення ў 1856 годзе — тады калі ў Варшаве прэм'ера адбылася толькі ў студзені 1858 года.

Творы Манюшкі да сённяшняга дня цешацца на Беларусі агромнай папулярнасцю. Яго опера «Страшны Двор» шмат гадоў знаходзілася ў рэпертуары Вялікага тэатра Оперы і Балету ў Мінску, а зараз гэты тэатр мае зноў аднавіць гэту оперу. Беларускае радыё творы і оперныя фрагменты вялікага польскага кампазітара перадае вельмі часта. Яго творы ўсяму беларускаму народу таксама блізкія, як і суайчыннікам.

**МАР'ЯН ФУКС**

Слава Мізарэчанскага млына ўпала. За гэты час паявіліся другія млыны.

Мізарэчанскі млын, як усе старыя млыны, водны млын. Тут рэчка — і прыгажыня навокал. Але Мізарэчанскі млын далёка ад нас. Каб змалоць у ім, трэба было выязджаць апоўначы, вяртаючыся дамоў на другі дзень, таксама апоўначы. Калі хто хацеў вярнуцца за дня, выязджаў увечары, зараз пасля таго, як жонка падаіла карову і нагатовіла вячэраць. Бо, апоўначы вакол Мізарэчанскага млына з'язджаліся фуры, займалі першую чаргу, над ранам было іх ужо многа. Млынар прыходзіў пры ўзыходзе сонца, малоў да захаду.

Пасля вайны адзін з нашай вёскі пабудаваў вялікі вятрак на Паповай гары.

Жонка Сяргея плакала і ледзь не пакінула яго.

Смяяліся людзі і са Сцяпана:

— Хто ж паедзе да тваяго электрычнага млына? Яшчэ пярун возьме ды ўдарыць!

Сяргей пахудзеў і счарнеў. Быў падобны на бедняка, а не на млынара: ён падаваў руку суседзям ды знаёмым, гаварыў «дзень добры». Што гэта за млынар, які вітаецца з людзьмі! Добры млынар не бачыць людзей, ходзіць ганарова, так, як мізарэчанскі.

Прамінуў год і Сяргей стаў ганаровым, каля яго млына паявілася чарга фурманак з мяшкамі збожжа. Аказалася, Сяргеева пароўка меле не горш, чым Мізарэчанскі млын. Жонка Сяргея

# ПАКАЛЕННІ МЛЫНОЎ

Спачатку ўсе паехалі малоць да яго, не паехалі толькі старыя гаспадары, якія цвярдзілі, што найляпей меле водны млын.

Старыя мелі рацыю: вятрак малоў кепска. І зноў усе паехалі ў Мізарэчанскі млын, ехалі аднак з менш гружанымі фурамі, ехалі намалоць на хлеб і пірагі. Вотруб'е свінням і цялятам малолі ў вятраку, на месцы. Мізарэчанскі млынар адчуў гэта, але яго гонар старога багатага не дазволіў яму паказаць тое па сабе. Ён, па-праўдзе кажучы, брыдзіўся людзьмі.

Гадоў дзесяць таму назад паявілася яшчэ два млыны. Аж два: Сяргееў і Сцяпанаў. Смяяліся людзі з Сяргея:

— Што ты будзеш малоць сваім паровым млыном? Пашто табе здалося выкідаць столькі грошай на збудаванне пароўкі!

стала весялейшай, пахарашэла яна і нарадзіла сына.

Аднак жа найбольш хітрым і шчаслівым аказаўся Сцяпан са сваім электрычным млыном. Электрычны млын меле не толькі добра, але і хутка. Памалу аколіца пачала гарнуцца да Сцяпана, а каб дарэшты панаваць над усімі млынарамі, Сцяпан кінуў ганарлівасць, узяўся быць новым чалавекам — з кожным гаспадаром закіне адно-два слоўца, параіць, як ляпей змалоць і што ляпей: паможа закінуць мяшок на плечы, запытае пра здароўе. Запрашае дахаты на тэлевізар.

Пра Мізарэчанскі млын даўно ўсе забыліся ў нас. Вятрак на Паповай гары паламала бура, цяпер гуляюць там у схованкі хлопцы з дзяўчатамі. Штораз менш чуваць і пра млын Сяргея.

Людзі едуць да Сцяпана.

**С. ЯНОВІЧ**

*Фальклор*

**ВАЛАЧЭБНАЯ ПЕСНЯ**

# ПАВА

Ходзіць пава па вуліцы ой віно
Ходзіць пава па вуліцы віно.
Роніць пер'я па мураўцы ой віно
Роніць пер'я па мураўцы віно.
А за ёю млода панна (імя)
Бярэ пер'я у хустку кладзе
З хусткі бярэ венок віе
З вішні вянец пашла у танец
З куль ні ўзяўся буйны вецяр.
Зарваў з панны павін венец.
Занес яго на Дунай
Пашла панна беражочкам
Сустракая трох малойцаў.
Трох малойцаў рыбалоўцаў
Ёй вы хлопцы рыбалоўцы
Вы закінце шолкаў невад
Вы спаймайце павін венец.
Што ж нам панна за дар дасі
Аднаму далярамі (ці талярамі)
А другому сто рублямі.
А трэцяму сама млода.
Сама млода як ягода.
Як ягодка баравая
Як вішанька садавая.
Скрозь садочак чырванела
Жэбысь панна шчэнсця мела
Гэту весну замуж вышла
Бочку піва прыкаціла
Нас малойцаў угасціла.
Копу яек на паўміску
Каўбасою абкруціўшы
Белым сырам прыласціўшы
Божым дарам заваршыўшы
Ой віно да віно зелено.

Запісаў Кастусь Пятэльскі
Крушыняны
Сакольскі павет

# ПАМЯЦІ БРАНІСЛАВА ТАРАШКЕВІЧА

З нагоды 75-ай гадавіны з дня нараджэння Браніслава Тарашкевіча 17 лютага г.г. ў памяшканні Варшаўскага аддзела БГКТ адбыўся вечар, на якім Аляксандра Бэргман выступіла з цікавым дакладам, прысвечаным слаўнаму сыну беларускага народа.

У вечары прынялі ўдзел прадстаўнікі заходнебеларускага грамадаўскага і камуністычнага руху, якія ведалі Бр. Тарашкевіча: генерал брыгады Войска Польскага тав. Самуіл Малько, тав. Уладзімір Станкевіч і тав. Барыс Махляр, які разам з Тарашкевічам у 1932 г. засеў на лаве падсудных.

Прысутнічалі таксама на вечары загадчык кафедры беларускай філалогіі В. У. праф. др Антаніна Абрэмбска - Яблонская, навуковыя супрацоўнікі і студэнты кафедры і шмат іншых асоб. Тав. А. Бэргман у сваім дакладзе прадставіла асноўныя перыяды палымянага жыцця, адданага барацьбе за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне свайго народа. Паказала яна цікавую эвалюцыю светапогляду Бр. Тарашкевіча. Ад масонскай ложы, у якой у свой час знаходзіўся, перайшоў у лагер актыўных барацьбітоў заходнебеларускага нацыянальна - вызваленчага руху, у шэрагі яго авангарду — Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі.

Дзякуючы А. Бэргман за даклад, праф. др А. Яблонская сказала, што дакладчыца паважна наблізіла постаць Тарашкевіча да слухачоў.

Думаю, што беластоцкая інтэлігенцыя, сярод якой дзейнічае Беластоцкае навуковае таварыства, павінна бліжэй пазнаёміцца з гэтай незвычайна цікавай постаццю, якая з'яўлялася сімвалам спалучэння беларускай і польскай культуры, сімвалам супольнай, бескампраміснай барацьбы з санацыйнымі ўладамі даваеннай Польшчы.

**ВІКТАР ШВЕД**

ЛЮДЗІ І ЧАС

# Узначальвала жаночы рух

Яе застаў я дома ў Орлі. Якраз рыхтавалася да акадэміі, прысвечанай 25-годдзю існавання ППР і 21-ай гадавіне ОРМО. Нягледзячы на тое, што была вельмі занятая, прысвяціла некалькі мінут, каб адказаць на пытанні журналіста. Зараз у Орлі яе кожны ведае, ведаюць перад усім дзеці, якім зараз прысвяціла свой час працуючы ў ТПД.

Зараз, зараз! Але я не падаў аб кім пішу?! Мне здавалася, што **Марыю Кантышаў** усе чытачы ведаюць так, як ведаюць яе арляне. А ў сувязі з тым, што гэта не так, пастараюся некалькі слоў перадаць аб **жанчыне — дзеячу ППР.**

— У ППР я ўступіла 5. II. 1945 года ў Гайнаўцы, — гаворыць М. Кантышаў. — Тут я працавала на фабрыцы. У час акупацыі 13 ліпеня 1941 года я страціла мужа, а ў 1943 годзе забілі майго сына.



М. Кантышаў яшчэ ў даваенны перыяд была сімпатыкам КПЗБ, да якой належаў яе муж, а сама належала да «Туру». Калі ў лютым 1945 года падпісвала дэкларацыю, іх, жанчын, было ўсяго чатыры: Каўшыла, Бенко, Цурканава і М. Кантышаў.

— Асноўным заданнем, якое я атрымала ад сакратара, — працягвае М. Кантышаў, — было з'яднанне жанчын. Неабходна было ісці ў масы, на вёскі. Не так лёгка было. Часта нас выганялі, а і вопыту не замнога мелася. Потым мы арганізавалі вясною дзетсад на Карнянскай калоніі і тады справа «рушыла». Жанчыны самі пачалі да нас прыходзіць.

На працягу ўсяго часу напружанай працы ўзначальвала і партыйныя арганізацыі і раду закладовую і была членам павятовага і гміннага камітэтаў ППР.

Год 1948, снежань. Марыя Кантышаў з'яўляецца дэлегатам Беластоцкай ППР на Кангрэсе ў Варшаве.

— З гэтых часоў многа памятаю. Калі ўжо так хочаце, дык раскажу вам аб адным выпадку. Раз, вяртаючыся ноччу са схода, перапынілі мяне некалькі мужчын. Пачалі распытваць. Аднак мае субяседнікі хутка дайшлі да вываду, што «гэта нашая, бо не баіцца». Былі гэта хлопцы з ЗВМ, якія ішлі на сход на Выгоду. У Гайнаўку мы ішлі як сябры.

У Орлі М. Кантышаў жыве ад 1952 года, куды яе таксама перакінула партыя. А праца ў ТПД пачалася ад таго, што Ліга жанчын у Орлі мела 3 тысячы зл. і перадала іх на ТПД. ТПД за тое арганізавала ў Орлі дзетсад. Тады у 1964 годзе гурток ТПД у Орлі налічваў 65 членаў, зараз — 130. У М. Кантышаў ужо пахне летам. Жыхары, нават з суседніх вёсак, прыносяць ужо складчыны, каб арганізаваць дзетсад. Адным словам, хоць М. Кантышаў на пенсіі, мае поўныя рукі работы з... наймалодшымі.

**А. ЛАБАНОВІЧ**



Падзенне самадзяржаўя віталі ўсюды.

# БЫЛО ГЭТА... 50 ГОД НАЗАД

Расія. Агульны крызіс эканомii краіны. Разруха і голад. Ваенныя паражэнні. Рэакцыйная палітыка ўрада. Усё гэта рэвалюцыянізавала шырокія масы. Складалася рэвалюцыйнае становішча. Няздольнасць царызма выйграць вайну, яго імкненне да сепаратнага міру і бяссілле перад надыходзячай рэвалюцыяй выклікалі незадавальненне царом і сярод буржуазіі, акрэсленыя колы якой вырашылі зрабіць палацовы пераварот. У сваю чаргу, кіруючыя колы мелі намер распусціць Дзяржаўную думу (распушчана ўказам цара 11 сакавіка), закрыць апазіцыйныя газеты, аб'явіць ваенную дыктатуру і заключыць сепаратны мір.

3 сакавіка пачалася забастоўка путілаўскіх рабочых. 8 сакавіка работніцы выйшлі на вуліцу ў Петраградзе з пратэстам супраць царызма, вайны і голаду. У гэты ж дзень забаставалі рабочыя вялікіх заводаў Выбаргскай стараны. 9 сакавіка баставала 200 тыс. рабочых. 10 сакавіка забастоўка ў Петраградзе пераўтварылася ва ўсеагульную палітычную забастоўку пад лозунгамі: «Далоў цара!», «Далоў вайну!», «Хлеба!» Супроць рабочых урад кінуў конную і пешую паліцыю, казакаў, салдат запасных палкоў і іншых часцей, якія былі ў Петраградзе. Бальшавікі разгарнулі рашучую барацьбу за войска. 12 сакавіка паўсталі салдаты Валынскага палка. Да вечара да паўстання далучылася звыш 66 тыс. салдат Петраградскага гарнізона. Паўстанцы захапілі арсенал, вызвалілі палітычных вязняў. 13 сакавіка Петраград поўнасцю перайшоў у рукі паўстанцаў. Паўстанне ў сталіцы было сігналам да рэвалюцыйных выступленняў па ўсёй краіне.

12 сакавіка адбылося першае пасяджэнне Петраградскага савета рабочых дэпутатаў. Старшынёй быў выбраны лідэр меншавіцкай фракцыі Дзяржаўнай думы Н. Чхеідзэ. У прэзідыуме Выканкома Савета большасць склалі меншавікі і эсэры.

15 сакавіка цар Мікалай II адрокся ад трона ў карысць свайго брата Міхаіла, але апошні 16 сакавіка таксама адрокся ад трона. У першыя дні рэвалюцыі рэальная ўлада была ў руках Петраградскага Савета рабочых і салдацкіх дэпутатаў. Аднак згодніцкае кіраўніцтва Савета вырашыла перадаць уладу буржуазіі. Выканком Савета, нягледзячы на пратэсты бальшавікоў, пастанавіў даць фарміраванне ўрада створанаму 12 сакавіка Часоваму камітэту Дзяржаўнай думы. 15 сакавіка Часовы ўрад быў сфарміраваны. Аднак пралетарыят не дапусціў адзінаўладства Часовага ўрада. Стварылася двоеўладства — своеасаблівае перапляценне дзвюх улад: буржуазнай улады ў выглядзе Часовага ўрада і дэмакратычнай дыктатуры пралетарыята і сялянства ў выглядзе Саветаў рабочых і салдацкіх дэпутатаў. Лютаўская рэвалюцыя не вырашыла заданняў, якія перад ёй стаялі: спыненне імперыялістычнай вайны, нацыяналізацыі ўсёй зямлі, нацыянальнага пытання. Бальшавіцкая партыя разгарнула барацьбу за перарастанне буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі ў сацыялістычную.

(ха)



На Неўскім праспекце ў Петраградзе палілі царскія эмблемы.




Мітынгі пераўтварыліся ў масавыя дэманстрацыі. Масквічы выйшлі на дэманстрацыю з гробам, на якім было напісана «Стары рэжым».



На тратуарах валяліся ляпныя эмблемы царызма. Гэта было ўжо мінулым Расіі, якая ішла да новай рэвалюцыі, да Кастрычніка.



Адным з першых перайшоў на бок рэвалюцыі Валынскі полк.




Тым часам мужчына, які ўцякаў, пераканаўшыся, што праследавацелі абясшкоджаны, на мінуту спыніўся. Аддыхаўся, выцер пот з твару. Пасля кароткага адпачынку ён пабег у бок шэрага аўтамабіля.

Абодва шпіёны стаялі ля «газіка», на якім Качмарэк уцёк з казармаў. Агент забраў з аўтамабіля два аўтаматы. Адзін аўтамат ён аддаў Стэйнеке.

Пасля кароткага абмену думкамі яны вырашылі ўцякаць на аўтамашыне. План уцёкаў быў просты: як мага хутчэй вырвацца з лесу і дабрацца да моста, дзе Стэйнеке ў свой час пакінуў амуніцыю. З прыбыццём на месца яны мелі намер звязацца з цэнтрам, паведаміць аб частковым выкананні задання і папрасіць дапамогі.

Шпіёны паспешліва набілі пустыя кішэні магазінамі з патронамі. Акрамя таго, Качмарэк захапіў з сабой некалькі бранябойных гранат.

Праз некалькі мінут яны былі ля маралітражкі. Стэйнеке скінуў плашч, перадаў яго Качмарэку.

— Апрані яго, прыкрыеш мундзір.

Стэйнеке пачаў вывучаць карту.

— Мы павінны выбрацца на шашу, — сказаў ён, водзячы пальцам па мяркуемай трасе, — а потым прама на Кольберг.

— Па той дарозе не праедзем. Здаецца, там няма моста, — няўпэўнена заначыў Качмарэк.

Стэйнеке рассмяяўся з адценнем перавагі.

— Гэта нашы карты, вельмі падрабязныя, — адказаў ён. — Найноўшыя нямецкія выданні.

— А, па-мойму, там няма моста, — паўтарыў Качмарэк, недаверліва глядзячы на карту. — Мы неяк ехалі на заняткі.

— Добра, добра, — нецярпліва перапыніў яго Стэйнеке. — Едзем. Ну, сядай, не цягні.

Стэйнеке па-майстэрску кіраваў машынай. Качмарэк назіраў за мясцовасцю...

— Паслухай, — звярнуўся Стэйнеке да Качмарэка. — Праз некалькі мінут будзем ля моста. Магчыма, там ужо салдаты...

— Дык не паедзем туды! — вырвалася ў Качмарэка.

— Пачакай, я яшчэ не скончыў, — абурыўся шпіён. — Дык вось, ля моста могуць быць салдаты. Не адкрывай страляніны без майго дазволу.

— А калі будзе неабходна?

— Падам табе знак, калі ўзнікне неабходнасць, — адказаў Стэйнеке.

Паехалі далей. Мінут праз дзесяць Качмарэк ускочыў з сядзення і крыкнуў:

— Стой!

Стэйнеке затармазіў.

— Што такое?

— Салдат ля дарогі бачыш? Там, пад соснамі!

Стэйнеке паглядзеў у люстэрка.

— Нас праследуюць. Правільней — цябе, таму што пра мяне яны яшчэ не ведаюць.

— І ты гаворыш пра гэта так спакойна?! Трэба ж уцякаць!

— Нічога, праз дзве мінуты праедзем мост, — сказаў Стэйнеке.

І ён пачаў паддавацца паніцы. Ён выдатна ўяўляў сабе небяспечную сітуацыю, у якой знаходзіліся. Стэйнеке разлічваў на момант замяшання. Салдаты ж праследавалі ўцекача ў афіцэрскім мундзіры. Яны маглі мінуту павагацца, задумацца...

— Цяпер бачу аўтамабіль, — ажывіўся Качмарэк.

— Што-о?! — усклікнуў Стэйнеке.

— Сапраўды, аўтамабіль, здаецца, «газік». Але там два аўтамабілі. Што ты робіш? — закрычаў Качмарэк. Ён моцна ўдарыўся галавой аб кузаў. Пачулася скрыгатанне тармазоў.

— Вылазь! — кінуў Стэйнеке злосна.

— Што здарылася! — запытаў здзіўлены Качмарэк.

— Няма моста! — ледзь вымавіў пабялелы Стэйнеке, паказваючы на рэшткі моста, што тырчэлі з вады. — Хутчэй вылазь. Давай зброю.

Качмарэк з ліхаманкавай хуткасцю выканаў загад.

— Кідай гранату! — загадаў Стэйнеке, убачыўшы аўтамашыну, якая набліжалася.

Качмарэк завагаўся.

— Страляй, д'ябал, страляй! — закрычаў Стэйнеке, зараджаючы аўтамат.

Качмарэк рвануў за спуст. Дзесьці ў лесе бліснула, загрымела.

У паветры засвісталі кулі. Шпіёны прыпалі да зямлі.

Качмарэк прыцэліўся. У рамцы прыцэлу паказалася некалькі салдат.

# ТРЫБУНА чытачоў

## ЛОК

Гурток ЛОК (Ліга абароны краіны) з пачатковай школы ў Войшках з'яўляецца адным з лепшых гурткоў у Бельскім павеце. Налічвае 30 членаў. Дапрацаваўся ён цікавых метадаў працы. На працягу апошніх гадоў пры гуртку дзейнічае мадэлярня, якой кіруе загадчык школы Аляксандр Барташук. Дзеці вельмі ахвотна прымаюць удзел у занятках мадэлярні. Выконваюць яны мадэлі самалётаў, верталётаў, ракет і г.д. і адначасова прысвойваюць тэарэтычныя веды з розных галін тэхнікі. Члены гуртка ЛОК апрача гэтага апякуюцца магілай савецкага салдата, якая знаходзіцца непадалёку школы, выдаюць сценгазеты на вайсковыя тэмы, удзельнічаюць у сустрэчах з прадстаўнікамі войска, арганізуюць вечарніцы і акадэміі.

Некалькі тыдняў таму назад у Войшках адбылася вялікая ўрачыстасць, у якой узялі ўдзел прадстаўнікі павятовых і ваяводскіх улад ЛОК, бацькі і школьнікі. Падчас гэтай урачыстасці члены гуртка ЛОК за добрую працу атрымалі ў падарунку майстэрскія прылады да мадэлярні вартасцю ў 30 000 зл. Вучні шчыра падзякавалі за каштоўны падарунак і забавязаліся яшчэ лепш вучыцца і больш актыўна працаваць у радах ЛОК.

Ф.С.
Войшкі

## СВЯТЛІЦА Ў АГАРОДНІКАХ

Многа год моладзь у невялікай вёсцы Агароднікі, Бельскага павета, не мела дзе падзецца вечарам. У вёсцы былі толькі гульні ў карты і... каб выпіць большую чарку.

У 1965 годзе пабудавалі школу і святліцу. Святліца вельмі вялікая. Вечары моладзь праводзіць у святліцы. Арганізуе патанцоўкі. Нарэшце мы культурна праводзім вольны час.

**Мікалай Заброцкі**
Агароднікі

## РАЙСК

Вёска наша была 16 чэрвеня 1942 года дашчэнту знішчана. Усе будынкі спаленыя. Дрэвы спаленыя альбо спілаваныя. Вуліца заарана трактарам. 149 чалавек расстраляна. Аднаму чалавеку ўдалося ўцячы, які быў таксама пастаўлены на расстрэл. Ён жыве і сёння ў Райску. Завецца Пятро Гадзіна.

Сёння наша вёска вельмі добра выглядае. Стаяць прыгожыя дамы і забудаванні. Выраслі новыя сады і дрэвы. Пабудавана цудоўная двухпавярховая школа. На вуліцы свеціцца электрычнае святло. Многія з Райска закончылі вышэйшую школу і працуюць на высокіх пасадах.

Вучань VII класа
з Райска

---

— Пачакай. — Нечакана Стэйнеке змяніў намер. — Паспрабую перайсці на другі бок.

— Адзін? — Качмарэк падазрона паглядзеў на яго.

— Так больш небяспечна, — адказаў шпіён. — Спярша я, потым ты. Праверу, ці ўсё там у парадку. Будзеш мяне прыкрываць...

Стэйнеке ўвайшоў у раку. Шырыня яе ў гэтым месцы не перавышала пятнаццаці метраў.

Між тым Качмарэк падабраў зброю, пакінутую Стэйнеке, які знаходзіўся ўжо на другім беразе.

— Я магу пераходзіць? — закрычаў Качмарэк, трасучыся ад страху. Салдаты ішлі шырокім ланцугом і былі ўжо зусім блізка.

— Цяпер страляй! — крыкнуў Стэйнеке.

Стэйнеке хутка, як змяя, падпоўз да паваленых дрэў. Ён быў ужо ў некалькіх кроках ад выратавальных ствалоў. Заракатала доўгая чарга. Стэйнеке ўпаў на зямлю, без адзінага гуку.

Качмарэк паглядзеў навокал. Цяпер у яго не было ніякай надзеі. Ён адкінуў аўтамат і выйшаў з прыкрыцця на дарогу. З бліжэйшага куста выйшлі першыя салдаты.

— Рукі ўгору! — пачуўся гучны вокліч.

Шпіён паслухмяна выканаў загад.

**(Працяг будзе)**

## ВЕСТКІ З ЧЫЖЫКАЎ

Вёска Чыжыкі, што на Гайнаўшчыне, налічвае каля 80 сем'яў (з калёніямі). У вёсцы ёсць чатырохкласная школа, настаўніцай з'яўляецца Марыся Мацкевіч. Тры гады таму ў вёсцы пабудавалі прыгожую злеўню малака. Пабудова ішла грамадскім чынам. Сяляне звозілі жвір, памагалі пры пабудове.

Штодзень у злеўні ўбачыш вясёлую маладую зляўнярку ў белым фартуху Любу Пракапюк.

Ад 1963 г. у Чыжыках ёсць гурток вясковых гаспадынь, які налічвае 27 членаў. Старшынёю гуртка з'яўляецца Тацяна Леўчук. Два гады таму быў праведзены курс пячэння і гатавання, а цяпер, пад канец лютага, пачнецца курс мясных вырабаў, а пасля — крою і шыцця. Існуе ў нас яшчэ і сельскагаспадарчы гурток, якім кіруе Уладзімір Кіцель. Сельгасгурток мае 5 трактараў з камплектамі сельскагаспадарчых машын, 2 малацільныя агрэгаты і апырсківач «Ольза». Вясною гурток хоча браць яшчэ 2 трактары.

**Марыся Швед**
вёска Чыжыкі

## КАЗАЧЫ ГАЁК

Каля Белак у лясочку у гразкім месцы непраходная была дрыгва. Як гаворыць легенда, калісьці праз гэтую дрыгву хацеў прабрацца на кані казак. Але не праехаў і ўтапіўся разам з канём. З таго часу гэтае месца называюць «Казачы гаёк». Пазней жыхары Белак паклалі ў тым месцы агромныя хвоі, каб была магчымасць прабрацца на другі бок гэтага балота. Міналі гады, і сяляне ўдзячны былі тым людзям, якія паклалі кладкі на гэтым месцы. Некалькі год таму назад жыхары вёскі грамадскім чынам пракапалі меліярацыйны роў. Стала там суха. Трактарамі зааралі гэтую сенажаць і збіраюць цяпер высакаякаснае сена. І так загінула дрыгва і кладкі, але легенда аб казаку надалей бытуе ў вёсцы.

Ярош
Белкі




«Дарагое Сэрцайка! Я ў гэтым годзе скончу 8 клас пачатковай школы. Хачу пайсці вучыцца ў артыстычную школу. Гэтая прафесія вельмі мяне цікавіць. Калі б не прынялі мяне ў артыстычную школу, ці можна было б паступіць у «Лявоніху». Падай мне адрас артыстычнай школы і напішы, да якога тэрміну можна дасылаць заявы», — піша Міша з Гайнаўшчыны.

А вось другі ліст:

« Дарагое Сэрцайка, я задумаў напісаць і прасіць у цябе дапамогі. Вельмі хачу стаць акцёрам фільму, але не ведаю, куды звярнуцца. За дапамогу буду табе вельмі ўдзячны» — А. з Гайнаўскага павета.

*

А вось мой вам адказ:

Каб быць артыстам (фільмовым, тэатральным і т.п.) трэба вельмі многа вучыцца, а апрача таго, трэба мець талент. Не ведаю, мо вы і здольныя хлапчукі, аднак не хапае вам яшчэ многіх год навукі. А па пачатковай школе няма артыстычных школ. Вы павінны скончыць сярэднюю школу, а пасля паступіць у вышэйшую артыстычную школу, якая мае розныя аддзелы. Хачу вам толькі сказаць, што дастацца ў гэтую школу вельмі цяжка, а прафесія акцёра — адна з найцяжэйшых прафесій. Найперш пастарайцеся здабыць сярэднюю адукацыю.

Адносна «Лявоніхі». У «Лявоніху» прымаюцца таксама асобы, якія маюць сярэднюю музычную адукацыю або іншую з вельмі добрым слыхам і голасам. Так што цябе, Міша, у «Лявоніху» не прымуць, бо ты не толькі не маеш сярэдняй адукацыі, але ж ты яшчэ вельмі малады.

Жадаю поспехаў

Сэрцайка

## ПЛЮСЫ І МІНУСЫ ГУРТКА

Маёмасць сельскагаспадарчага гуртка ў Дашах акрэсліваецца сумай 754.020 зл. Гаспадарчую дзейнасць гурток вядзе ад 1964 года, калі закупіў 2 трактарныя камплекты машын і малацільны агрэгат. У наступным годзе гурткоўцы купілі трэці трактар, а ў 1966 годзе — 4-ы трактарны камплект. Гаспадарчая дзейнасць гуртка наогул вядзецца нядрэнна. З кожным годам значна павялічваюцца грашовыя даходы. І так, у 1964 годзе чысты даход складаў суму 51.795 зл., у 1965 годзе — 104.121 зл., а ўжо ў 1966 годзе — 126.681 зл. У мінулым годзе трактары працавалі 5.716 гадзін. На адзін трактар прыпадае па 1.633 гадзіны. А два малацільныя агрэгаты працавалі ў 1966 годзе 562 гадзіны. Гэта таксама не мала. Дашаўскі сельскагаспадарчы гурток мае два галоўныя недахопы: 1) не разрастаецца ён ушыр. Вёска налічвае 120 гаспадароў, а членамі сельгасгуртка — толькі 30 гаспадароў. 2) Гурток не з'яўляецца да гэтага часу арганізатарам уздыму на вышэйшы ўзровень сельскагаспадарчай вытворчасці ўсёй вёскі. Не арганізуе ён для ўсёй вёскі забеспячэння мінеральнымі ўгнаеннямі і сродкамі аховы раслін, а таксама не дбае аб кваліфікаваным насенні для ўсяго агулу гаспадароў.

Усе недахопы сельгасгуртка спрыяюць таму, што ён не здабыў яшчэ ў вёсцы належнага аўтарытэту. Вось менавіта над гэтымі справамі праўленне сельгасгуртка павінна шмат папрацаваць.

**Аляксандр Рашкевіч**
Гайнаўка

## ПАЎЛАЎСКІ ДРАМАТЫЧНЫ ГУРТОК

Вёска Паўлы з'яўляецца адной з большых вёсак у Бельскім павеце, налічвае яна больш 100 гаспадароў. Ёсць тут многа моладзі, якая актыўна ўдзельнічае ў розных культурных працах. І вось іменна таму Паўлы цешацца вялікай папулярнасцю ў павеце. Ужо многа год існуе ў Паўлах гурток Саюза вясковай моладзі (ЗМВ), які працуе вельмі добра і мае ў сваёй працы дасягненні.

У гэтым годзе паўлаўская моладзь пры дапамозе настаўнікаў пачатковай школы зноў апрацавала поўную праграму сваёй культурнай дзейнасці.

Найбольш працы і сілы ўлажыў у гэта кіраўнік школы Аляксей Максымюк, а таксама многа працуюць для гэтага гуртка паўлаўскія настаўніцы Раіса Снарская, Анна Шыло, Людміла Швайко і Валя Сыльвеструк. 29 студзеня 1967 г. паўлаўскі драматычны гурток выступіў у сваёй вёсцы. У праграму ўваходзілі беларускія песні, гумар, вершы, а таксама была пастаўлена п'еса «Мараль Наталлі Зотавай». Уся зала была запоўнена да апошняга месца. Сапраўды, было на што паглядзець, а некаторыя жанчыны, глядзеўшы на драму сямейнага жыцця, былі так узрушаны і ўсхваляваны, што не маглі ўстрымацца ад слёз.

Паўлаўская моладзь не траціць ані адной вольнай хвіліны. Яна разам з настаўнікамі кожны вечар збіраецца ў школе і зноў пашырае сваю праграму, каб яшчэ больш прыгожа выступіць у суседніх вёсках.

Моладзь думае таксама выступіць і на павятовым аглядзе.

Настаўніца пачатковай школы ў Паўлах
**Анна Шыло**

## СЛЯДЫ АКУПАЦЫІ

Хоць ужо мінула больш як 20 год ад часоў нямецкай акупацыі, але яшчэ пасляваенныя раны не зажылі. Многа яшчэ ёсць магіл параскіданых у розных кутках Польшчы, пра якія мала хто ведае, а часам і ніхто не ведае. А варта іх шукаць і аб іх памятаць.

Я прыпамінаю сабе адзінокую магілу яўрэйскай сям'і. Жонка з мужам і сваімі дзяцьмі праходзілі праз вёску Патоку, Беластоцкага павета, у напрамку вёскі Белкі, Гайнаўскага павета. Там засталі мірную яўрэйскую сям'ю шуцпаліцаі і павялі яе ў лес. Яўрэйская сям'я ведала, што набліжаецца апошняя хвіліна жыцця. Не памаглі просьбы маці і бацькі, каб пакінулі каты ў жывых хаця толькі іх дзяцей.

Цэлую сям'ю расстралялі і пахавалі ў лесе, і сляды зацерлі свежым сасновым галлём. Праз нейкі час знайшоў гэту магілу кіраўнік пачатковай школы ў Патоцы Мікола Краўчук і са сваімі школьнікамі апякуецца ёю.

(М. Л.)
Гайнаўскі павет

## ШКОЛЬНІКІ БЕЛАК

Зіма дакучае голадам і холадам птушкам і звярам. І ў гэты цяжкі перыяд ім памагаць павінен чалавек. Найбольш памагаюць птушкам і звярам школьнікі. Вось, напрыклад, школьнікі з Белак, якія ходзяць у школу ў Трасцянку, шмат дастаўляюць ежы звярам і птушкам. Адначасова ратуюць іх ад смерці. Іван Лук'янюк, вучань 6-га класа, 29 студзеня зняў 10 штук сілаў падрыхтаваных на зайцаў і на курапатвы.

Ярош

# КІНО

**Праграма на 14—19.III.1967 г.**

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Белавежа**
„Marcin w obłokach" (jugosł.), 14—15. „Anioł błogosławionej śmierci" (czeski), 16—17. „Arcylokaj" (franc.), 18—19.

**Кляшчэлі**
„Majowe gwiazdy" (czeski), 14—15. „Strachy zamku Spessart" (NRF), 16—17. „O carski tron" (bułg.), 18—19.

**Дубіны**
„Cisza, na sali operacja!" (radz.), „Dzwonić Nortside 777" (USA), 18—19.

**Нараўка**
„Nikt śmiać się nie będzie" (czeski), „Nieznany" (polski) 15—19.

**Нарва**
„Samson" (polski), „Sklep przy głównej ulicy" (czeski), 15—19.

**Чыжы**
„Dwadzieścia godzin" (węgierski), „Elektra" (duński), 15—19.

**Дубічы Царкоўныя**
„Wierność" (radz.), „Pierwszy dzień mego syna" (czeski), 15—19.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**
„Przybycie tytanów" (włoski), „Zdradzona ziemia" (radz.), 15—19.

**Орля**
„Spacer po linie" (angl.), „Trzy kroki po ziemi" (polski), 15—19.

**Райск**
„Pieczone gołąbki" (polski), „Rękopis znaleziony w Saragossie" (polski), 15—19.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**
„Walizka z milionami" (francuski), „Nieśmiały w akcji" (radz.), 14—17.

**Міхалова**
„Jej 7 wieczorów" (czeski), 14 — 15. „Dzielnica kruków" (szwedzki), 16—17. „Głosuję na miłość" (jugosł.), 18—19.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**
„Jadą goście, jadą" (polski), 14—15. „Wzgórza" (angl.), 16—17. „Gdzie jest trzeci król" (polski), 18—19.

**Шудзялава**
„Operacja Y" (radz.), „Ojciec żołnierza" (radz.), 15—19.

**Сідра**
„Przygody Wernera Holta" 14—15. „Winnetou" I s. (jugosł.), 16—17. „Winnetou" II s. (jugosłowiański), 18—19.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**
„Śmierć Belli" (franc.), „Wyrok" (polski), 18—19.

**Новы Двор**
„Wiosna we wrześniu" (czeski), „Wielki skok" (franc.), 18—19.

**Ліпск**
„Testament uczonego" (radz.), „Giuseppe w Warszawie" (polski), 18—19.

**Ніва**

**Орган Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства.**

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

Nakład 7.029 Błtk M-3

# ТАКАААЯ АДУКАЦЫЯ

Даганіла мяне мая дзядзіна, якую ў вёсцы людзі завуць Удотка-Пераплётка, хапіла мяне па-свавацку за руку, прытулілася і, агляну́ўшыся, прыцішаным голасам пачала гаварыць:

— Чула, Мальвінка? Па вёсцы ідзе пагалоска, што недзе прапаў Валадзюль Скакуноў...

— А мо' зноў на якую работу ўлез? — сказала я. Але дзядзіна перабіла:

— Што ты, каб быў дзе на рабоце, то хоць на нядзельку прыехаў бы. Дальбо, гавару табе шчырую праўду. Пэўна яго пакаморнік за элементы прыскрыпіў. Бо ўвесь час круціў і не хацеў плаціць, — барабаніла дзядзіна, бы шырокамалотка.

Але, як на пацеху, чорт паднёс Клаўдзю, жонку Валадзюлёву. Дзядзіна штурхнула мяне ў бок і шапнула:

— Ну, зараз папытаем...

Падышла да нас Клаўдзя, пазнароўкалася і пачала весела гаварыць пра вясковыя справы. Дзядзіна таўханула мяне ў бок, аж мне ў кішках боўтнула. Але я зацяла зубы і думаю: калі такая цікавая, то хай сама пытае. Дзядзіна не вытрымала і пачала:

— Ты, Клаўдзенька? А дзе твой Валодзечка?

— А на што ён вам?

— Ой, бо ён мне так патрэбны.

— Няма яго дома і не хутка вернецца.

— А што, мо' зноў дзе працуе?

— Не, вучыцца паехаў.

— Вучыцца?! А не застары ён?

Тут ужо я ўмяшалася:

— На навуку ніколі не позна. Сёння чалавек без граматы, бы баран: б'е лобам у дзверы і не ведае, куды трапіць.

— Але, мне здаецца, Валодзька мае сем класаў? — перабіла дзядзіна.

— Так, у мінулую зіму кончыў сямігадоўку ў вечаровай школе, — пацвердзіла Клаўдзя.

— Ну, а якую ж ён цяпер адукацыю здабывае? — не здавалася дзядзіна. — Мо' на курс трактарыстаў запісаўся?

— Ой, не! — пакруціла галавою Клаўдзя.

Дзядзіна лісліва ўзяла Клаўдзю пад руку:

— То ты ўжо, Клаўдзечка, скажы нам, на каго ён адукуецца, бо і так будзем ведаць. Сакрэту перад усімі не схаваеш.

— А я і не думаю хаваць, бо гэта зусім не сакрэт, — сказала Клаўдзя. — Мой Валодзька вучыцца на бычка.

Дзядзіна вывалила вочы.

— На бычка?! — застагнала яна.

— Так, на бычка, — прытакнула Клаўдзя.

— Як гэта, твой Валодзька будзе...

Тут прышла я ў дапамогу Клаўдзі:

— А ці ж вы нічога не чулі аб штучнай абсеменацыі бычка?

А дзядзіна ўдзрылася ў грудзі:

— А дальбо перша чую... Але я ведаю, цяпер свет прагрэсіўны... І чаго цяпер людзі не выдумаюць... Ага... Але што ж будзе цяпер з расовымі бугаямі? Мо' і ім якую семінарыю адкрыюць? — пачала цокаць і выкручваць галавою дзядзіна.

А я сабе падумала: вось як некаторыя людзі разумеюць, што азначае такая адукацыя.

ЦЁТА МАЛЬВІНА



З ЗАГРАНІЧНАГА



### У КАФЭ

У кафэ было шмат наведвальнікаў. Адзін з іх скончыў есці першае і другое і пайшоў па шклянку кавы. Калі ён вярнуўся, яго месца было ўжо занята.

— Грамадзянін, вы занялі маё месца.

— А чым вы дакажаце?

— Вельмі проста. Пад вамі павінна быць маё піражнае.

### ЗВЫЧКА

Пакупнік: — Што гэта вы націскаеце пальцамі на вагі?

Прадавец: — Прабачце, калі ласка, але я да гэтага працаваў музыкантам у духавым аркестры.

### НЕ ВЕДАЕ

Настаўнік: — Дарагі мой, ты сядзіш у класе амаль цэлы год, але яшчэ не ведаеш маленькай часткі таго, што ведаю я.

Вучань: — Дык вы ж сядзіце ў гэтым класе вось ужо трыццаць год.

### НААДВАРОТ

— Вы ж зусім не слухаеце маю лекцыю. Увесь час пазяхаеце.

— Таму і пазяхаем, што слухаем.

### ЗАМЕНІМ

Кінарэжысёр наказвае артысту:

— Як толькі выскачыце з самалёта, адразу торгайце за кальцо.

— А калі парашут не раскрыецца?

— Тады заменім яго іншым.

### ПАДКЛАЛІ СВІННЮ

— Хто гэтаму рэвізору падклаў свінню? Яго ж з работы звольнілі.

— Яму не свінню падклалі, а гусака з птушкафермы.



Дырэктарскія фатэлі надта мяккія і выгодныя, але няўстойлівыя.

*

Маладосць — гэта вясеннее сонца кожнай шчаслівай старасці.

*

Кожная гонка за страчаным часам гэта толькі каркаломны бег.

*

Аб чалавеку, які быў, людзі надта хутка забываюць.

*

Кожны круцель стараецца як найлепш замаскавацца.

— Цётка, прадайце тату пляшку самагонкі.

— Гэта табе не крама: дзецям да 16 год я не прадаю.

Усё людское нам не чужое.

### ПЕРАКАНАЎ...

— Як справы, Хвядос? Казалі, што ўчора ты зноў з жонкаю пасварыўся.

— Няпраўда, хлусня... Мы з ёю ўжо другі тыдзень не размаўляем.

### ПРЫЧЫНА

Пацыент: — Доктар, дапамажыце, галава баліць. Я б і сам падлячыўся, ды буфет зачынены.

### ПРАВІЛЬНЫ АДКАЗ

Прафесар: — Што такое трагікамедыя?

Студэнт: — Гэта... гэта смех праз слёзы.

### АБРАДАВАЎ

Жонка згатавала мужу смачную вячэру. З апетытам пад'еўшы, муж выражаў зрабіць ёй штосьці прыемнае.

— Любая, сказаў муж, — заўтра я сам згатую табе такі ж смачны снядак.

— Які? — здзівілася жонка.

— Падагрэю суп, што застаўся ад вячэры.

### ПЕРАВЯРНУЛІ

— Я вышэй за ўсіх вас, — гаварыла верхняя ступенька драбіны, ганарыста паглядаючы зверху ўніз на сваіх сяброўак.

Але аднаго разу нехта перавярнуў драбіну. І верхняя ступенька стала самаю ніжняй.

Г. Падаляка

# ВАНЮ МАЦІ ПАСЫЛАЛА




Ваню маці пасылала
І наказ яму давала:
— Жні, Ваня, жыта жні,
Жні, Ваня, жыта жні.

Ваня жыта жаў, не жаў,
Ўсё з дзяўчынай размаўляў.
Адзін снапок нажаў
І на сонца паглядаў.

Толькі сонца за лясок —
І з работы Ваня ўцёк,
Да мілай ён спяшаў,
Да мілай ён спяшаў.

Ваня к мілае прыбег,
А яна ўзняла на смех:
— Дзень цэлы ты ляжаў,
Ледзь-ледзь снапок нажаў.

Лежабока ты, гультай
Не люблю цябе я, знай,
Другую пашукай,
Ідзі, ідзі, лайдак,
Вось так!



### НОВАЯ МАРКА ЦЫГАР

Тытунёвая фірма ў Бад Вюртэмбергу пачала выпускаць цыгары маркі «Адольф Гітлер». Наклейка на кожнай цыгары — гэта мініяцюрны партрэт фюрэра. Новыя цыгары карыстаюцца поспехам сярод былых нацыстаў.

### ДА ЎВАГІ ТАПЕЛЬЦАЎ

Выключны клопат аб сваіх кліентах праявіла адна з амерыканскіх трансатлантычных авіякампаній. Пасажыр атрымлівае цяпер не толькі выратавальны пояс, але і кароткі даведнік для тых, хто не ўмее плаваць. Так што ў выпадку катастрофы — ніякіх прэтэнзій да кампаніі.



### «КАМУНІСТЫЧНАЯ АДОЗВА»

Нядаўна двое школьнікаў з Кенсінгтона (штат Мэрылэнд, ЗША) перапісалі са свайго падручніка гісторыі дзесяць першых абзацаў з «Біля аб правах», які быў прыняты ў 1791 годзе і ўвайшоў у тэкст цяперашняй амерыканскай канстытуцыі, і пайшлі па кватэрах збіраць подпісы пад гэтай «адозвай». Вельмі нямногія рызыкнулі паставіць свае подпісы пад тэкстам. Большасць адмовілася. Адна дама нават выклікала паліцыю, якая тут жа арыштавала «камуністычных агітатараў». У паліцэйскім участку дзяцей патрымалі да таго часу, пакуль не высветлілі, што тэкст сапраўды складаецца з першых абзацаў амерыканскай канстытуцыі.



Маска — адзіная частка твару, якую чалавек выбірае сам.